PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 52 (2224) Год XLIII Беласток 27 снежня 1998 г. Цана 1,20 зл.

## Беларуская школа патрыятызму

Андрэй Мароз

На пачатку 90-х гадоў паміж Польшчай і Беларуссю пачаўся абмен студэнтамі нацыянальных меншасцей з мэтай пазнання нацыянальнай культуры і ўмацавання добрасуседскіх адносін са сваімі суродзічамі за мяжою. Але ці з перспектывы васьмі гадоў абмену можна сказаць, што ўдалося дасягнуць гэтую мэту? Для польскага боку безумоўна так. Грамадзяне Беларусі, якія лічылі сябе палякамі, пасля побыту ў Польшчы пачалі ганарыцца сваім народам, а шматлікія сталі вернікамі Каталіцкага касцёла і польскімі патрыётамі.

Зусім іншая сітуацыя з беларусамі. Першапачатковыя дэмакратычныя перамены на Беларусі хутка спыніліся і пачаўся ўсеагульны рэгрэс, які аказаў моцны ўплыў на беларусаў Беласточчыны, якія прыехалі вучыцца ва ўстановы Рэспублікі Беларусь. Калі раней выкладчыкі небеларускіх навучальных дысцыплін, такіх як філасофія, замежная літаратура ці псіхалогія пераходзілі на беларускую мову выкладання, то пасля рэферэндуму і ўвядзення двухмоўя хутка вярнуліся да рускай мовы, на якой чыталі лекцыі ў савецкі час. Адмоўныя выказванні педагогаў у адрас Польшчы, а ў прыватнасці вядомага выкладчыка ангельскай мовы, які вучыў калісьці ў Гайнаўскім беларускім ліцэі, Алены Таболіч, насцярожылі студэнтаў, якія і так бачылі антыпольскія настроі некаторых выкладчыкаў.

У нялёгкіх пачатках студэнцкага жыцця на Беларусі выдатна „дапамагаюць" і адміністрацыі універсітэтаў. Дэзарыентаваных прыезджых, у большасці выпадкаў, чакаюць шматлікія праблемы з закватараваннем у інтэрнат і залічэннем на заняткі. Да іх ставяцца як да няпрошаных гасцей і вялікай ласкай лічаць тое, што павінны зрабіць як адміністрацыя: даць нязнішчаны пакой, якуюсьці мэблю, адрамантаваць туалет ці ванную. Больш кемлівыя даюць хабар і паскараюць гэтыя вельмі „складаныя" справы. Больш прыходзіцца лічыць на сябе самога ды на старэйшых сяброў, як на дапамогу з боку універсітэта.

А як выглядае сітуацыя з краязнаўчымі экскурсіямі па Беларусі? Мабыць, улады лічаць краіну мала цікавай, бо на пальцах можна палічыць тых студэнтаў, якім за казённыя грошы ўдалося паехаць у Навагрудак, Нясвіж ці Мір. Астатнім прыходзіцца адкладаць грошы са сваёй мізэрнай стыпендыі і самастойна арганізаваць экскурсіі. Многія ставяць пытанне, чаму польскі бок так апякунча ставіцца да сваіх суродзічаў, стараецца дапамагчы пазнаць усю

[працяг ☞ 2]



Мікалай Крэчка і Павел Латушка.

# Консульству РБ — 5 гадоў

Аляксандр Максімюк

10 снежня генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку Мікалай Крэчка склікаў адмысловую прэс-канферэнцыю, нагодай для якой паслужыла 5-годдзе беларускага дыпламатычнага прадстаўніцтва ў нашым горадзе. За гэтыя гады праз консульства пракацілася са сваімі справамі звыш 20 тысяч наведвальнікаў. Былі сярод іх і грамадзяне Беларусі, частка якіх, па словах консула, апынулася ў нашай краіне ў экстрэмальных умовах, і грамадзяне Польшчы, якія звярталіся ў справах сваіх пляменнікаў у Беларусі. Консульства дапамагло 480 прадпрыемствам, якія шукалі гандлёвых партнёраў у Беларусі ды суарганізавала 9 сустрэч міжурадавага ўзроўню.

— З прыемнасцю адзначаю, — сказаў М. Крэчка, — што наша ўстанова рабіла ўсё, каб адносіны паміж нашымі дзяржавамі былі як найлепшымі.

Гэткім падсумаваннем і закончылася тая частка прэс-канферэнцыі, якая была прысвечана юбілею. У другой частцы ўвага адводзілася сітуацыі нацыянальных меншасцей у Польшчы і Беларусі. Калі хто здзіўляецца або сумняваецца ў існаванні такой установы ў беларускім урадзе як міністэрства статыстыкі, дык ад 10 снежня асобам такімі напэўна не будуць журналісты, прысутныя на прэс-канферэнцыі ў беластоцкім консульстве РБ. Па даных, якія прадставіў М. Крэчка, колькасць беларусаў у Польшчы і палякаў у Беларусі — параўнальныя. Непараўнальная аднак увага, якая адводзіцца гэтым меншасцям паасобнымі ўрадамі і самаўрадамі. Консул РБ у якасці прыкладу прывёў асвету. Супастаўленне колькасці польскіх школ у Беларусі (выкладанне на польскай мове) і школ з факультатыўным прадметам беларускай мовы ў Польшчы (толькі такія тут існуюць), супастаўленне прафесійнай падрыхтоўкі настаўніцкіх кадраў тут і там, а таксама і колькасць асоб польскай нацыянальнасці, якія працуюць у гродзенскай абласной адміністрацыі — былі да таго паражальнымі (не ў карысць Польшчы), што ніхто з журналістаў не мог перавесці дыху.



Міхаіл Слямнёў (злева на першым плане).

[працяг ☞ 3]

*Чытачам „Нівы", якія святкуюць Каляды па новым стылі, жадаем спакойнага і прыемнага святочнага адпачынку.*

Рэдакцыя

## Страсці вакол зарплаты

Радны Мікалай Рэнгайла прапанаваў змяніць статут Арлянскай гміны ў частцы, якая тычыцца вызначэння зарплаты войту. Хацеў ён, каб аб зарплаце не вырашала Управа гміны, але ўся Рада. Пасля бурных спрэчак Рада прыняла гэтую папраўку і занялася вырашэннем фінансавых спраў.

[самаўрад ☞ 3]

## Беларуска-літоўская дзяржава

Пасля шматгадовых даследаванняў гродзенскі гісторык дайшоў да вываду, што літоўцы ў гарадах Панямоння ўспрымаліся як свае. Князі куплялі тут сабе дамы, жанілі сваіх дзяцей з прадстаўнікамі мясцовай феадальнай эліты. У беларускіх гарадах прадавалі перш за ўсё зрабаванае на ўсходзе, захадзе і поўначы дабро.

[рэцэнзія ☞ 4]

## Вуліца Добрай Надзеі

Ярузэльская вайна апаражніла месца пад акном. І непрыкметна, і невядома чаму зрабілася пану Казіку не па дарозе ў наш дом. Напачатку, да канца снежня амаль, заглядаў яшчэ, аднак у карты ўжо не гулялі. Праседжвалі наогул моўчкі, а калі што-небудзь гаварылі, тады найчасцей пра мароз — люты, трыццаціградусны, які ў снежні не так ужо часта і здараецца.

— Зіма ваша, вёсна наша, — сказаў аднойчы пан Казік...

[апавяданне ☞ 5]

## Як я апярэдзіў канкардат

У мясніцы адсвяткуем з жонкаю восем гадоў супольнага жыцця. Юбілей не вялікі і не круглы, але я не пра юбілеі. Пішу, бо толькі цяпер стала мне ясна, што я ў той лагодны студзень 1991 года ўзяў шлюб паводле прынцыпаў, якія дазволіў канкардат толькі напрыканцы 1998 года.

[дэталі ☞ 9]

## Праз тыдзень...

— 31 снежня 1998 г. — **Беларускі каляндар на 1999 год**.

# Беларусь — беларусы

## У Менску „спалохаліся марозу”, а ў Гродне пратэставалі супраць жабрацтва

Шырока разрэкламаваная ў Беларусі масавая акцыя пратэсту афіцыйных прафсаюзаў, якая планавалася на 2 снежня, не адбылася. Напярэдадні яна была адменена Федэрацыяй прафсаюзаў Беларусі. Сваё рашэнне арганізатары тлумачылі тым, што ўрад пайшоў з імі на перамовы, і тым, што быў моцны мароз. На наступны дзень усе дзяржаўныя СМІ святкавалі перамогу. Яны сцвярджалі, што беларусы не хочуць пратэставаць супраць палітыкі свайго прэзідэнта, а ФПБ не мае ніякага ўплыву на рабочых.

— Афіцыйныя прафсаюзы здрадзілі інтарэсам працоўных, — сказаў 5 снежня на мітынгу ў Гродне рабочы мясцовага тонкасуконнага камбіната Адольф Зацэпін. — Нам трэба ствараць свае прафсаюзы, якія на самой справе будуць нас абараняць.

Мітынг у Гродне адбыўся ў цэнтры горада на пляцоўцы за Палацам тэкстыльшчыкаў. Ён быў арганізаваны прафсаюзамі некалькіх прадпрыемстваў і грамадскімі арганізацыямі горада.

Месца правядзення акцыі пратэсту было выбрана невыпадкова. Чатыры з паловай гады таму падчас выбарчай кампаніі на гэтай пляцоўцы кандыдат у прэзідэнты Аляксандр Лукашэнка абяцаў гродзенцам „запустить заводы”, „уничтожить коррупцию”, „увеличить заработки” і шмат чаго іншага. Арганізатары сёлетняга мітынгу, які праходзіў пад лозунгам „Не — жабрацтву!”, даслалі прэзідэнту запрашэнне ў Гродна, каб ён мог даць справаздачу перад людзьмі, якія калісьці слухалі яго абяцанкі.

У дзве гадзіны дня да Палаца тэкстыльшчыкаў прыйшло каля чатырох тысяч гродзенцаў. Над натоўпам луналі бел-чырвона-белыя сцягі Беларускага народнага фронту, сябры якога ўзялі на сябе асноўную працу па інфармаванні насельніцтва пра маючы адбыцца мітынг, сінія сцягі Свабоднага прафсаюза Беларусі. Людзі трымалі ў руках транспаранты. На іх былі напісаны наступныя патрабаванні: „Беларускаму народу — еўрапейскі ўзровень жыцця!”, „Не допусцім дыктатуры на Беларусі!”, „Нашы суседзі — не толькі Расія” ды іншыя. Уражвала вялікая колькасць людзей сталага ўзросту, якія заўсёды лічыліся апорай прэзідэнта. Адна жанчына трымала ў руках плакат: „Гітлер знішчаў яўрэяў. Лукашэнка пенсіянераў — голадам і жабрацтвам”.

— Раней я была прыхільніцай Лукашэнкі, — казала яна людзям. — Падчас выбарчай кампаніі не ведала ні сну, ні адпачынку. Бегала па горадзе і агітавала людзей галасаваць за Аляксандра Рыгоравіча. Зараз ледзьве зводжу канцы з канцамі. Няхай прэзідэнт адкажа, чаму нас падмануў.

Але адказу ніхто не дачакаўся. Аляксандр Лукашэнка праігнараваў сваіх былых выбаршчыкаў. Пачакаўшы, дзеля ветлівасці, некалькі хвілін арганізатары пачалі мітынг.

Ад імя сталага пакалення выступіў сябра дэмакратычнага аб'яднання ветэранаў Леанід Закурдаеў. Ён падкрэсліў, што пасля распаду Савецкага Саюза паўстала пытанне — куды ісці? Калі іншыя народы пайшлі наперад, дык беларусы, пастаяўшы на месцы, вырашалі падацца назад. Ветэран вайны і працы заклікаў сваё пакаленне папрасіць прабачэння ў нашчадкаў за „доўгае таптанне на месцы” і разам з моладдзю змяняць сітуацыю ў краіне да лепшага.

На мітынгу таксама выступалі рабочыя, кіраўнікі незалежных прафсаюзаў, прадстаўнікі грамадскіх арганізацый. Усе яны казалі пра катастрафічнае становішча ў эканоміцы краіны, пра бяздарную дзейнасць Аляксандра Лукашэнкі і яго ўрада.

Удзельнікі мітынгу прынялі рэзалюцыю, у якой патрабавалі ад кіраўніцтва краіны спыніць палітыку, што вядзе да збяднення насельніцтва. Калі сітуацыя ў Беларусі не зменіцца, гродзенцы паабяцалі перайсці да больш дзейсных метадаў вырашэння сваіх праблем.

**Зміцер Кісель**

## Беларуская школа патрыятызму

[1 ☞ працяг]
Польшчу, арганізуе шматлікія экскурсіі і лагеры адпачынку падчас летніх канікул, а беларускі бок абыякава ставіцца да ўсяго гэтага? Узаемапазнанню гэта, напэўна, не садзейнічае.

Спачатку некаторыя студэнты ўдзельнічалі ў мітынгах і дэманстрацыях за дэмакратызацыю грамадскага жыцця, але рэпрэсіі і пагроза выключэння з універсітэта і выдалення за межы краіны прымусілі іх стаць пасіўнымі назіральнікамі за падзеямі. Застаўся толькі боль у сэрцы ад бяссілля зрабіць штокольвечы для Беларусі, якой грамадзяне, у асноўнай сваёй масе, абыякава ставяцца да лёсу ўласнай краіны.

Трэба сказаць, што беларускія універсітэты даюць добрую адукацыю на высокім узроўні. Даступнымі па цане з'яўляюцца такія культурныя ўстановы, як філармонія, тэатры, музеі, галерэі і кіно, але каб выхаваць сапраўднага грамадзяніна і патрыёта недастаткова навучыць студэнта матэматыцы, біялогіі, замежнай мове ці мастацтву, трэба зрабіць яго актыўным удзельнікам грамадскага жыцця, узбудзіць у ім любоў да роднай краіны — а гэтага якраз і не хапае ва універсітэцкім выхаванні ў Беларусі. Многія адчуваюць сябе чужымі, непатрэбнымі ці нават непажаданымі гасцямі ў гэтай краіне. У Польшчы іх называлі рускімі альбо праваслаўнымі, а ў Беларусі яны сталі „палякамі”, нікому непатрэбнымі людзьмі.

**Андрэй Мароз**

## „У карагодзе хмарак і анёлаў”

Такую назву мае адзін верш з новага зборніка твораў Дануты Бічэль „Нядзелька”. Кніжка ўбачыла свет напярэдадні Каляднага посту і, разгарнуўшы першыя старонкі зборніка, уваходзіш у стан задумення, адчуваеш прыемную асалоду чакання свята.

*Каляды. Пасярод начы*
*ступае Божанька па снезе.*
*Празрысты месячык уверсе*
*і саграваe і маўчыць.*

Як адзначае сама паэтка: „Зборнічак вершаў „Нядзелька” — гэта плён працы аднаго года і вяртанне да некаторых ранейшых вершаў, якія адпавядаюць святочным думкам...”.

Вершы ў „Нядзельцы” вельмі асабістыя. Узнікае ўражанне, што дакранаешся да таямніцы. Данута Бічэль як бы дазваляе чытачу ўвайсці ў яе ўнутраны свет. Пяшчотныя, добрыя словы да сваёй сям'і. Успаміны пра продкаў, размова з унукамі плаўна пераходзяць у роздум пра лёс Краю і народа.

*Бацька ў шыхты за Пілсудскім*
*паспеў.*
*Дзядзька за іх у ГУЛАГу гібеў.*
*Свёкар занёс свае косці пад Ржэў.*
*Муж тут з хваробамі біўся, як леў.*
*Нёман ізноў тут ляжыць, як у сне,*
*Хутка ізноў тут вайна палыхне.*
*Сын мой, не йдзі на вайну без мяне.*
*Божа, збяры нас на гэтай вайне.*

Нягледзячы на трывожныя прадчуванні, спадарыня Данута з надзеяй глядзіць у будучыню. Яна спадзяецца на новае пакаленне беларусаў, якія выведуць краіну з цемры.

*Маладыя кавалеры*
*ціха ладзяць інструменты —*
*скрыпкі, флейты і сякеры,*
*косы, пікі і багнеты.*

*Шчэ манкуртаў дахалеры.*
*Спяць ізгоі, інсургенты.*
*Шчэ няма ніякай веры.*
*Шчэ далёка давідна...*
.....

*Ды са мною Матка Боска.*
*Абміні́це Дом наш, хлусы!*
*Калі толькі на імгненне*
*не заснём апошні раз, —*
*за табою пойдзе войска*
*незалежнай Беларусі.*
*Выйграць, выйграць, выйграць мусім,*
*а інакш не будзе нас.*
.....

Выдадзена кніжка Гарадзенскім моладзевым альянсам імя Вітаўта Вялікага і абласным аб'яднаннем „Ратуша”.

**(зк)**

## Еўрапейскі Саюз дамаўляецца з Лукашэнкам

9 снежня ў Менску была падпісана сумесная заява міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь і кіраўніцтва Еўрапейскага Саюза аб урэгуляванні праблемы вакол комплексу Драздзы. Пад дакументам стаяць подпісы ўпаўнаважанага ЕС пасла Дзітмара Штудэмана і намесніка міністра замежных спраў Беларусі Уладзіміра Герасімовіча.

У заяве, у прыватнасці, гаворыцца, што Беларусь шляхам актыўнага садзейнічання і супрацоўніцтва будзе імкнуцца забяспечыць заключэнне доўгатэрміновых пагадненняў аб засяленні кіраўнікамі дыпламатычных прадстаўніцтваў новых рэзідэнцый у адпаведнасці з палажэннямі Венскай канвенцыі аб дыпламатычных зносінах. Зацікаўленыя прадстаўніцтвы, у сваю чаргу, будуць імкнуцца максімальна скараціць тэрмін, неабходны для выпрацоўкі дагаворных дакументаў аб новых рэзідэнцыях. Як толькі прадстаўніцтвы заходніх дзяржаў зоймуць свае часовыя ці пастаянныя рэзідэнцыі і паведамяць аб гэтым у МЗС Беларусі, кіраўнікі прадстаўніцтваў пасля адпаведнага ўзгаднення ў рамках ЕС вернуцца ў Менск, каб на працягу месяца вызваліць рэзідэнцыі, якія знаходзяцца на тэрыторыі комплексу Драздзы.

Каб патрапіць у свае былыя рэзідэнцыі і арганізаваць падрыхтоўку да іх канчатковага вызвалення, прадстаўнікі пасольстваў краін ЕС павінны не пазней чым за 24 гадзіны паведаміць пра гэта Міністэрства замежных спраў Беларусі. Члены персанала пасольстваў будуць мець доступ да арандаваных імі рэзідэнцый на тэрыторыі Драздоў па меры неабходнасці, але не радзей за тры разы ў месяц. Дагаворы аб арэндзе памяшканняў будуць лічыцца несапраўднымі з часу паступлення паведамлення аб іх вызваленні. Беларускі бок бярэ на сябе аплату выдаткаў, звязаных з пераездам паслоў. Памер і працэдура кампенсацыі будуць вызначаны падчас двухбаковых перамоў, якія бакі пачнуць адразу ж пасля вызвалення рэзідэнцый у Драздах.

У сувязі з прыняццем сумеснай заявы МЗС Беларусі і кіраўніцтва ЕС Сойм Беларускага народнага фронту выказаў шкадаванне. „Рашэнне нельга назваць кампрамісным, — гаворыцца ў паведамленні Сойму БНФ. — Амбасадары вяртаюцца, але не ў належныя ім паводле міжнароднага права рэзідэнцыі. Такім чынам, рэжым Лукашэнкі настаяў на сваім і святкуе чарговую знешнепалітычную перамогу”.

**(зк)**

## Забойства на смаленскай дарозе

У сярэдзіне снежня жыхары Гродна былі шакіраваны страшэнным злачынствам, якое адбылося ў Расіі на дарозе каля горада Ярцава Смаленскай вобласці. Ноччу 7 снежня невядомыя бандыты захапілі мікрааўтобус „Мэрсэдэс”, у якім ехалі шэсць гарадзенскіх прадпрымальнікаў. Пасля катаванняў ахвяры былі расстраляны. Машына замініравана.

Усе забітыя зараблялі сабе на жыццё гандлем на рэчавым рынку ў Гродне. У Расію паехалі за таварам. Вялікіх сумаў грошаў у іх не было, магчыма таму іх забілі не адразу. Бандыты катавалі людзей не паверыўшы ў адсутнасць грошай.

Для Расіі такія злачынствы паўсядзённая з'ява, а для Гродна гэта было шокам і выклікала абурэнне людзей. 12 снежня правесці ў апошні шлях самага малодшага забітага, 20-гадовага хлопца, які 18 студзеня павінен быў узяць шлюб, прыйшло некалькі сотняў людзей. Прафсаюз прадпрымальнікаў рэчавага рынку 28 снежня праводзіць жалобны мітынг, сем'ям загінуўшых збіраецца грашовая дапамога.

На гэтым фоне дзіўным выглядае адсутнасць рэакцыі не толькі рэспубліканскіх, але і гродзенскіх улад. У мясцовых дзяржаўных СМІ пра здарэнне прагучала толькі кароткае паведамленне ў крымінальнай хроніцы. Родзічы забітых ніякай дапамогі і нават спачування ад улад не атрымалі. У гродзенцаў усё больш умацоўваецца пераканне — улады не адрэагавалі на забойства сваіх грамадзян таму, што злачынства адбылося на тэрыторыі Расіі.

**(зк)**

# „Праведнасць” суда

Было гэта не так даўно. Адзін пенсіянер-земляроб захацеў узяць пазыку ў банку — шэсць колішніх мільёнаў злотых. Папрасіў ён сваячку, каб яна паручылася за яго; яму грошы былі патрэбныя, каб заплаціць штраф за крадзены лес. Сказаў ён: „Не бойся, я пенсіянер і калі атрымаю сваю пенсію адразу аддам доўг, а калі і не, дык я ж на ласцы дзяржавы і мне стануць адлічваць з маёй пенсіі”. Сказаў гэта з іроніяй і насмешкай, але кабеціна паверыла яму, бо ж яго жонка прыходзілася ёй роднаю цёткай; за каго ж паручацца, як не за сваю радню?.. Паручыла яна і пенсіянер узяў у банку грошы і прапіў іх, гуляючы цэлы месяц, а жанчыне-паручыцельцы давялося з уласнай кішэні аддаць тыя шэсць мільёнаў у банк; яна хутка гэта зрабіла, каб не раслі працэнты. А ў банку клеркі-хітруны падказалі ёй, каб падала пенсіянера ў суд і суд прысудзіць п'яніцу вярнуць ёй грошы.

Яна так і зрабіла, а ў судзе сказалі ёй яшчэ, што справу яна напэўна выйграе, толькі спярша трэба заплаціць судовыя кошты. Заплаціла яна ўсё так, як ёй сказалі ў судзе, і то не малую суму грошай. У дзень разбору справы п'яніца нават не з'явіўся ў суд. Суддзя за пяць мінут нешта вучонае, незразумелае вясковай кабеце прамармытаў і закончыў справу, а ісціцы давялося яшчэ нешта плаціць. А праз нейкі час атрымала яна яшчэ паперу, каб аплаціць яшчэ і судовага выканаўцу, які будзе ажыццяўляць выкананне судовага прыгавору; яна заплаціла і тое. І скора атрымала чарговую паперу, ад самога судовага выканаўцы, дзе было напісана, што пенсія не падлягае судоваму выкананню і што яму вельмі прыкра, што не можа жанчыне дапамагчы...

Калі ласка: калі цягнулі грошы ад пакрыўджанай і суд, і судовы выканаўца, тады ім не было прыкра і сорамна, а толькі тады ім стала „прыкра”, калі яе абскублі з усіх бакоў, што ўжо і не асталося чаго скубці; „суцешылі” яе сваім цынічным шкадаваннем! Калі яны: суддзі, судовыя выканаўцы, адвакаты і давераныя людзі прысягалі перад арлом або крыжам, што яны будуць верна служыць людзям і краіне, дык чаму ж адразу не сказалі гэтай жанчыне праўды, што нічога з яе захадаў не атрымаецца? Яна б тады не выдавала грошай на чорт ведама што. Але такія людзі працуюць у бельскім судзе, бо менавіта там разбіралася гэтая справа.

А вось нядаўна сын яе ехаў самаходам з Орлі ў Плёскі і яму раптоўна заехаў дарогу фурман-пенсіянер, які спяшаў вазіць бульбу. Дайшло да выпадку і шчасце, што абышлося без калецтва і ахвяр. У паліцыі шафёру сказалі што можа ён падаваць пенсіянера ў суд, каб вярнуў грошы за прычыненае пашкоджанне аўтамабіля, але засудзіць яго — малы шанс. І шафёр, навучаны вопытам сваёй маці ў бельскім судзе, махнуў на ўсё гэта рукою.

Пенсіянер можа і забіць чалавека, і яму месца ў турме не знойдуць...

**Мікалай Панфілюк**

# Новыя тэлефоны

Тэлекамунікацыйнае прадпрыемства „Рэтэль С.А.”, якое ўвайшло на Гайнаўшчыну восенню мінулага года, падключыла ўжо каля 2 500 тэлефонаў, якія працуюць з лічбавымі тэлефоннымі станцыямі ў Гайнаўцы і Нарве шляхам кабеляў і бяскабельнай лічбавай сістэмы, выкарыстоўваючы мачту ў Гайнаўцы.

— У Гайнаўцы яшчэ толькі 700 тэлефонаў падключаных да станцыі пры дапамозе кабеляў, а ўсе апошнія працуюць дзякуючы паветранай бяскабельнай сістэме, але плануем перайсці на кабельную, — гаворыць кіраўнік аддзела прадпрыемства „Рэтэль С.А.” у Гайнаўцы Якуб Астапчук. — Паводле самай новай сістэмы паставілі мы 150 тэлефонаў у прадпрыемстве „Фурнэль”, дзе з кожным абанементам можна спалучыцца без унутранай станцыі, а ён пазней сам можа падключаць наступныя тэлефоны.

Ад верасня г.г. прадпрыемства „Рэтэль”, карыстаючыся той жа самай мачтай, што і ў горадзе, але новай сістэмай „Тадзіран”, бескабельна падключыла 600 новых тэлефонаў у навакольных вёсках, найбольш у Карыцісках, Койлах, Кавяле, Рэпісках і Старым Корніне.

— Тэлефоны падключаем адразу і гаспадарам, якія жывуць ў вялікіх вёсках, і гаспадарам, якія жывуць на хутарах далёка ад вёсак, калі яны не далей чым 15 кіламетраў ад Гайнаўкі. Калі б паставілі мачту на ўзгорку, што ў Грабняку каля Збуча, маглі б мацніраваць тэлефоны гаспадарам на Гайнаўшчыне і Бельшчыне на адлегласці да 25-30 кіламетраў, — кажа кіраўнік Якуб Астапчук. — У будучыні думаем і па вёсках пераходзіць на кабельную сістэму, якую скарысталі нядаўна ў Нарве. Да новай лічбавай станцыі падключылі там тэлефоны з Управы гміны, прадпрыемства „Пронар” і прыватных асоб, а станцыю спалучылі з Гайнаўкай святлапроводам.

**Аляксей Мароз**

# Консульству РБ — 5 гадоў

[1 ☞ працяг]

Беларускі пісьменнік Адам Глёбус у адным апавяданні напісаў, што англійскае слова сатысфакцыя ў беларускай мове ўспрымаецца хутчэй як помста, чымсьці задавальненне. Вось і прэсавая канферэнцыя генеральнага консула РБ у Беластоку М. Крэчкі стала гадзінай яго сатысфакцыі над беластоцкай прэсай. Консул расправіўся з публікацыямі, якія праліваюць слёзы над лёсам польскай асветы ў Беларусі ды даказаў заадно, што мясцовая прэса не гатовая дыскутаваць пра такія пытанні (польскія газеты змаўчалі параўнанне стану меншаснай асветы тут і там).

Лепш аднак пра юбілей, бо ён стаў галоўнай падзеяй. 14 снежня Генеральнае консульства наладзіла з гэтай нагоды ўрачысты прыём у Беластоку. Мерапрыемства атрымалася тлумным. Афіцыйных асоб на ім — не пералічыць. Скажу толькі, што быў там Міхаіл Слямнёў — першы генеральны консул РБ у Беластоку, але не хапіла Ігара Хадасевіча, які 5 гадоў таму з'явіўся ў Беластоку і арганізаваў тут дыпламатычнае прадстаўніцтва Беларусі. Консульства ёсць консульства — такая ўстанова і павышае ранг горада, і прыдае яму красы. Правам і прывілеяй грамадзян хваліць або крытыкаваць адносіны паміж суседзямі. Абавязкам улад — падтрымліваць добрыя адносіны. З першым няма ў нас клопату. З другім — усяк бывала і бывае.

**Аляксандр Максімюк**

*Фота Сяргея Грынявіцкага*

# Страсці вакол зарплаты

Трэцяя сесія Рады гміны Орля гэтага скліканнгя адбылася 4 снежня. Цягнулася яна чатыры з паловай гадзіны і наагул прайшла спакойна і плённа, хаця не была пазбаўлена страсцей, калі справы дайшлі да вызначэння зарплаты войту.

Многа часу заняло чытанне пратакола з папярэдняй сесіі. Старшыня прапанаваў, каб пратакол прыняць без чытання (пазнаёміцца з яго тэкстам тэарэтычна можна было перад сесіяй і пасля яе, але на практыцы радныя гэтага не робяць). У выніку настойлівых патрабаванняў пратакол з 11 старонак быў публічна адчытаны. Аказалася, што не адлюстроўвае ён зместу папярэдняй сесіі і не быў адобраны. Затым радныя вызначылі колькасць пастаянных камісій рады, выбралі членаў камісій, пазнаёміліся з палажэннямі аб працы гміннага самаўрада.

Я асабіста прапанаваў унесці ў гмінны статут папраўку наконт герба Орлі — арыгінальны герб знайшоў я ў выніку шматгадовых пошукаў у архівах. Радныя аднадушна адобрылі пранаваны мною герб. Радны Мікалай Рэнгайла прапанаваў змяніць статут гміны ў частцы, якая тычыцца вызначэння зарплаты войту. Хацеў ён, каб аб зарплаце не вырашала Управа гміны, але ўся Рада. Пасля бурных спрэчак Рада прыняла гэтую папраўку і занялася вырашэннем фінансавых спраў. У першую чаргу радныя заняліся вызначэннем дыэт (камандзіровачных) самім сабе — 150 зл. у месяц плюс 50 зл., калі радны ўдзельнічае ў пасяджэнні сесіі, камісіі ці ўправы. Тройчы радныя галасавалі над ганарарам старшыні Рады і ў выніку будзе ён атрымоўваць 500 зл. у месяц (так як і ў папярэднім скліканні).

Найбольшыя страсці выклікала зарплата войту. Да гэтай пары ягоны заробак быў засакрэчаны. Цяпер радныя даведаліся, што войт месячна атрымоўваў агулам больш за 5 тысяч зл., а асноўная плата складала 1770 зл. Радны Шыманскі хацеў ведаць, якая асноўная плата была назначана войту ў 1994 г. Чыноўнікі пайшлі шукаць пастанову рады чатырохгадовай даўнасці, а войт, звесіўшы галаву, стукаў алоўкам па карце паперы. Час ішоў, чыноўнікі не вярталіся. Сакратар Управы гміны выявіў, што асноўная зарплата войту, паводле законаў, павінна вагацца паміж 786 і 1770 зл. Аказалася, што арлянскі войт атрымоўвае максімальную стаўку. Гэта выклікала незадавальненне часткі радных. Урэшце, пасля паўгадзінных пошукаў, знайшлася пастанова ад 31 жніўня 1994 г. Згодна ёй асноўная зарплата войта складала тады 630 зл. у месяц. плюс 150% функцыйнага дадатку. На зале ўспыхнула гарачая дыскусія і радныя ніяк не маглі дайсці да згоды наконт войтавых заробкаў. Сам войт не вытрымаў гэтага напружання і стаў выходзіць з залы. У дзвярах сказаў: „Я сам за сваю зарплату таргавацца не буду. То ж гэта базар, а я — парася якоесьці, ці што...” Пасля саракахвілінных перагавораў пад галасаванне ставіліся дзве прапановы асноўнай зарплаты: 1770 і 1300 зл., якія атрымалі па 9 галасоў. У такой сітуацыі пад галасаванне радныя шоў іншы варыянт зарплаты: 1770, 1400 і 1500 зл. Гэтым разам большасцю галасоў войту была назначана асноўная зарплата ў памеры 1400 зл.

Калі страсці вакол войтавай зарплаты сціхлі, радныя спакойна і аднадушна прынялі пастановы аб задачах у галіне камунікацыі, аб распрацоўцы новага плана добраўпарадкавання гміны і аб распісанні конкурсу на пасаду дырэктара школы ў Малінніках.

Пад канец сесіі разглядалася мая прапанова аб наладжанні куцці для бяздомных і адзінокіх асоб з тэрыторыі Арлянскай гміны. Гэтую ідэю падтрымала жыхарка Орлі Таіса Кацэйка, але не ўсе радныя зразумелі сэнс маёй прапановы і абыякава разышліся ўзяць з гміннай касы свае камандзіровачныя. Аб куцці для абяздоленых засталіся пагутарыць са мною спадарыня Кацэйка і радны Ёдла. Ужо пасля сесіі сакратар гміны Канстанцін Капонаў паабяцаў дапамогу гміны пры арганізацыі куцці.

**Міхал Мінцэвіч**

# Падарожныя замалёўкі

Субота 12 снежня г.г. не спрыяла падарожжам. На дварэ моцны вецер і мяцеліца. Дарогі занясло снегам. У такое надвор'е нават сабаку з буды не выганіш. Аднак каму трэба ехаць, той у хаце не сядзіць.

Цягнік якім я ехаў у $6^{37}$ з Чаромхі ў Беласток, хоць падстаўляецца зараней на перон, недагрэты. Сядаем з прыяцелем не распрануўшыся. У кампаніі хутка бяжыць час. У Бельску мой спадарожнік выйшаў, а да мяне прыселася сяброўка з Гайнаўкі.

Прыехала яна ў Бельск на чыгуначным аўтобусе; нідзе па дарозе не заязджаў ён на прыпынкі (Старое Беразова, Мора, Арлянка), бо дарогі былі нерасчышчаны.

— У Гайнаўцы аб'яўляла гэта дзяжурная перад выездам, — сказала спадарожніца. — Некалькі чалавек засталося. А там жа чакалі пэўна людзі на наш аўтобус. Вось як дзейнічае аўтобусны транспарт зімою.

У Страблі спаглядаю ў акно. Адзінокі рыбак з вудачкай кіруецца ў бок рэчкі Нарвы. Што яго прымушае ў такое надвор'е ехаць на рыбалку, цяжка мне сказаць: хобі ці нястача ежы ў хаце?

У Беластоку мяцеліца не спыняецца. Чакаючы свайго аўтобуса чую музыку гармоніка, якая нясецца з-пад базара „Мадро”. Гэта інвалід „зарабляе” цяжкі грош, каб пражыць. Бачу яго заўсёды ў тым самым месцы іграючага прахожым. Хто кіне грош у шапку, хто пройдзе побач не звяртаючы ўвагі. Відаць, так ужо мае быць.

**Уладзімір Сідарук**

# БТ у Гайнаўцы

З 10 па 14 снежня г.г. у Гайнаўцы пабывала экіпа Беларускага тэлебачання ў складзе: старшы рэдактар праграмы „Шматгалоссе” Творчага аб'яднання сацыяльных праграм Галіна Дзятлоўская, рэжысёр Таццяна Агафонава і тэлеаператар Аляксандр Казачэнка. Па заказу Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей здымлі яны матэрыял пра Беларускі музей у Гайнаўцы і праблемы беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы. Мінскіх тэлежурналістаў перш за ўсё цікавілі перспектывы развіцця Музея і яго роля ў станаўленні нацыянальнай свядомасці беларусаў Беласточчыны. Правялі яны размовы з дзеячамі Грамадскага камітэта пабудовы Беларускага музея і Беларускага грамадска-культурнага таварыства ды рэдактарам „Нівы”, наведалі царкву і ўдзельнічалі ў адкрыцці выстаўкі карцін Алега Кабзара, якая якраз пачала працаваць у музейным будынку. Зняты тэлематэрыял мае таксама адказаць на пытанне, якая дапамога патрэбна музею з боку ўлад Рэспублікі Беларусь. **(вл)**

# Беларуска-літоўская дзяржава

На тэму Вялікага княства Літоўскага ўзнікла ўжо вялікая літаратура. Пры адсутнасці беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі кожны з суседзяў стварыў сваю навуковую міфалогію на гэту тэму. Расіяне, палякі і літоўцы прынялі версію пра заваяванне літоўскімі ляснымі плямёнамі беларускіх гарадоў на Панямонні. Пасля пры панаванні князёў Гедыміна і Альгерда гэтыя літоўцы ж мелі падпарадкаваць тэрыторыю да Чорнага мора на поўдні, на ўсходзе захапіць Смаленшчыну, а пры тым даваць адпор крыжацкім паходам.

Дзесяць гадоў таму сенсацыю выклікаў адзін з беларускіх даследчыкаў-аматараў Мікола Ермаловіч, які вызначыў тэрыторыю старажытнай Літвы ў цэнтры Беларусі, паміж гарадамі Слонімам, Навагрудкам, Маладзечнам, Клецкам. Ермаловіч сваю тэорыю абгрунтаваў на літаратуры рускіх летапісаў і нямецкіх хронік. Паводле яго, князь беларускага Навагрудка Міндоўг у палове XIII стагоддзя падпарадкаваў сабе Літву, адкуль быў раней выгнаны. На тэрыторыі сярэднявечнай Беларусі была такая традыцыя, што гарады проста наймалі князёў для выканання мілітарнай місіі. Найчасцей баяры князёў і іх дружыны не ўпускалі ў горад, а толькі будавалі ім непадалёк замкі. Навагрудак сапраўды доўгі час быў сталіцай Літвы, а ўсё дзяржаўнае справаводства вялося на беларускай мове. Пункту гледжання Ермаловіча не падзялялі аднак нават беларускія гісторыкі, хаця вельмі добра гэтая тэорыя падыходзіла да патрабаванняў бягучай палітыкі ўзнікаючай беларускай дзяржавы. Дарэчы, у такім стылі пішуць сваю гісторыю палякі, рускія, літоўцы, украінцы. Сёння, калі вучань канчае пачатковую школу, ведае, што ўжо пры Мешку I палякі змагаліся за польскасць Шлёнска, а ў XVII стагоддзі нават Пскоў быў польскім горадам. Калі б Беларусь была такой нацыянальнай краінай як Польшча, магчыма ў такім жа стылі фарміравала б гістарычную свядомасць сваіх маладых грамадзян.

У Беларусі ёсць шмат гісторыкаў, асабліва маладзейшага пакалення, якіх цікавіць мінулае свае Бацькаўшчыны, але такое, якое яно было ў сапраўднасці. Тыя, якія займаюцца сучаснай гісторыяй, маюць толькі абмежаваныя магчымасці публікавання сваіх прац, але спецыялісты па сярэднявечнай мінуўшчыне могуць разлічваць на магчымасць друку вынікаў сваіх даследаванняў нават у афіцыйных выдавецтвах.

Восенню гэтага года ў Мінску паказалася праца гродзенскага гісторыка Аляксандра Краўцэвіча пра стварэнне Вялікага княства Літоўскага (ВКЛ)*. Аўтар некалькі разоў прадстаўляў вынікі сваіх археалагічных даследаванняў у „Беларускім гістарычным сшытку", што выдаецца ў Беластоку Беларускім гістарычным таварыствам. Краўцэвіч сваю тэорыю наконт узнікнення ВКЛ стварыў на падставе археалагічных матэрыялаў і летапіснай літаратуры тае эпохі. Ягоная праца сканструяваная з некалькіх тысяч элементаў, якія адпаведна дапасаваныя ў адну цэласць даюць адказ адкуль узялося Вялікае княства Літоўскае. Старажытная Літва, паводле Краўцэвіча, знаходзілася вакол гарадоў Вільні, Ашмян, Крэва. У XIX стагоддзі была гэта тэрыторыя, насельніцтва якой ужо гаварыла на беларускай мове. Літоўскія плямёны ў асноўным жылі з рабаўніцтва. Іхныя князі са сваімі дружынамі ў XIII стагоддзі даходзілі на захадзе пад Познань і Кракаў, на ўсходзе — пад Смаленск і Ноўгарад, на поўначы — пад Дынабург і Рыгу. Літоўцы рабавалі ўсё, што можна было з сабою забраць — прадметы, жывёлу, людзей. Краўцэвіч упершыню паставіў пытанне: чаму яны не рабавалі і не палілі багатых гарадоў, якія былі побач — Гародні, Ваўкавыска, Навагрудка, Слоніма? Адказ аўтар шукаў перш за ўсё ў археалагічных матэрыялах.

Пасля шматгадовых даследаванняў гродзенскі гісторык дайшоў да вываду, што літоўцы ў гэтых гарадах усприма́ліся як свае. Князі куплялі тут сабе дамы, жанілі сваіх дзяцей з прадстаўнікамі мясцовай феадальнай эліты. У беларускіх гарадах Панямоння прадавалі перш за ўсё зрабаванае на ўсходзе, захадзе і поўначы дабро. Каля Навагрудка, Слоніма ці Ваўкавыска, побач хрысціянскіх могільнікаў, археолагі знайшлі шмат літоўскіх магільных курганоў XIII стагоддзя. Міндоўг, які аб'яднаў літоўскія плямёны, не патрабаваў ваенным шляхам падпарадкоўваць сабе Наваградак, каб гэты горад зрабіць сталіцай. Ён сапраўды з дапамогай Наваградка змагаўся з канкурэнцыяй іншых літоўскіх князёў. Праўдападобна пра яго перамогу вырашылі грошы, якія атрымаў ён ад баяраў і мяшчан гэтага горада.

Аляксандр Краўцэвіч не пакідае сумнення, што эліта Вялікага княства Літоўскага была беларуска-літоўскай. У склад гэтай дзяржавы не ўваходзілі жамойты і аўкштоты, якіх зямля сёння складае ядро сучаснай Літвы. Падчас вайны Вялікага княства з валынска-галіцкімі ўладарамі тыя ж балцкія плямёны змагаліся на баку сярэднявечных украінцаў. Праз наступнае стагоддзе беларускія і літоўскія феадалы падпарадкавалі сабе амаль усю Украіну. Не патрабавалі вялікіх намаганняў, таму што гэтая краіна раней была страшэнна знішчана манголамі.

Мірнае сужыццё беларусаў і літоўцаў ускладнілася, калі вялікі князь Якуб Ягайла, пасля забойства свайго дзядзькі Кейстута, выращыў прыняць каталіцызм і карону Польшчы. Памяняў ён імя на Уладзіслава, а палякам абяцаў на дзяржаўныя пасты прызначаць толькі католікаў. Пераважная большасць беларускіх праваслаўных феадалаў ніколі не змірылася з такой палітыкай. Такім чынам Ягайла запачаткаваў рэлігійны канфлікт на Беларусі, які цягнуўся амаль 150 гадоў.

**Яўген Міранович**

*А. Краўцэвіч, *Стварэнне Вялікага княства Літоўскага*, Мінск 1998, сс. 208.

# Літоўскае права на заходніх рубяжах Вялікага княства Літоўскага

***(заканчэнне; пачатак у папярэднім нумары)***

Рэч Паспалітая Абодвух Народаў у выглядзе уніі датрывала да 1795 г. Развалілася яна пад ударам трох абсалютызмаў, якім не былі вядомыя паняцці юрыдычнага пачуцця свабоды ці прымяненне насілля без законнай асновы. Незразумелым для гэтых абсалютызмаў быў юрыдычны абсяг дэмакратыі, спрэчкі грамадзян на сейміках і ў Сейме, прадугледжаныя законам — невядомы быў абсяг умяшання дзяржаўнай улады і роля самаўрадаў. Тады юрыдычна было замацавана тое, што нанава пачынаецца фармавацца ў III Рэчы Паспалітай. Менавіта тады, пасля ўхвалення другога Статута літоўскага, былі ўстаноўлены земскія, гродскія і падкаморскія суды — уведзена было самакіраванне ў выглядзе сеймікаў, прызначаны былі ваяводы ў якасці выканаўчай улады. Менавіта тады праведзена было размяжаванне ўлады. Гэта не Мантэск'е ўвёў траісты падзел улад, гэта здзейснілася ў Вялікім княстве Літоўскім пры панаванні Ягелонаў і іх вялікіх падканцлераў. Гэта тады, дзякуючы кадыфікаванаму праву і ўстаноўленым юрыдычным інстытутам грамадзяне маглі заключаць грамадскую дамову з кіруючай уладай і акрэсліваць кампетэнцыі вярхоўнай улады (суверэна) і самаўрада. Гэта не Русо, але вялікі падканцлер Вялікага княства Літоўскага Леў Сапега ўвёў гэтае юрыдычнае вырашэнне ў самую вялікую канстытуцыю Еўропы, якая сёння сціпла завецца Статутамі літоўскімі. Дух літоўскага права спрычыніўся да таго, што пасля Люблінскай уніі з прычыны на супольнасць Сеймаў стварылася з аднаго боку супольнасць усяго заканадаўства, а з другога боку паланізацыя шляхты давяла да ўвядзення ў судаводства ў 1697 г. польскай мовы. Тады Статуты літоўскія былі перакладзены на польскую мову і далей прымяняліся на практыцы. Не абмежавалі ўжывання літоўскага права памкненні абодвух саксонскіх электараў увесці хаця б часткова абсалютызм у Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў. Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай заходнія рубяжы Вялікага княства Літоўскага апынуліся пад панаваннем Расіі, Прусіі і Аўстрыі. На гэтай тэрыторыі юрыдычную моц захаваў трэці Статут літоўскі ад 1588 г. у якасці матэрыяльнага і працэсуальнага цывільнага і крымінальнага права. Толькі ў Беластоцкай вобласці, створанай у 1807 г. з часткі Падляшша і Троцкага ваяводства, пасля III падзелу былі ўведзены дадаткова элементы прускіх нормаў. У Расіі не было тады юрыдычнай кадыфікацыі такога рангу, які прадстаўлялі Статуты літоўскія і якія маглі б замяніць гэты статут, які з 1588 г. праверыўся на практыцы і адпавядаў інтарэсам грамадзян Вялікага княства Літоўскага.

Толькі ў 1840 г. у г.зв. „беларускіх губернях" у Вялікім княстве Літоўскім быў адменены Статут літоўскі і ўведзены абавязваючы ў Расіі ад 1835 г. Звод законаў. Характарыстычнай рысай яго было тое, што ў галіне нормаў цывільнага права прымаліся ў большай часткі нормы трэцяга Статута літоўскага. Такім чынам X том Звода законаў быў прадаўжэннем і адлюстраваннем палажэнняў Статута літоўскага. А крымінальнае права ўведзена было ўва ўсім Расійскім царстве ў 1845 г. і рознілася яно ад запісаў Статута літоўскага. Было яно вынятае з-пад кампетэнцыі судоў і перададзенае адміністрацыйным уладам. Гэты раздзел спрычыніўся да таго, што ўсе справы, якія належалі земскім і падкаморскім судам, вяліся на польскай мове на аснове літоўскага права. Руская мова пачала абавязваць у справах, якія пры Вялікім княстве Літоўскім належалі кампетэнцыі гродскіх судоў. Ліквідацыя гэтага стану і уніфікацыя судовага ладу адбылася ў Расіі толькі ў 1864 г. У Вялікім княстве Літоўскім уніфікацыя была праведзена ў 1882 г. Пасля I сусветнай вайны у II Рэчы Паспалітай не дайшло да уніфікацыі цывільнага права і на заходніх рубяжах Вялікага княства Літоўскага, далучаных да Рэчы Паспалітай пасля Рыжскага трактата, прымяняўся X том Звода законаў Расійскага царства. А рускія крымінальна-працэсуальныя законы абавязвалі да 1928 г. Пасля II сусветнай вайны ў Польскай Народнай Рэспубліцы толькі ў 1947 г. было ўведзена новае прадметнае права, а поўная кадыфікацыя цывільнага права была зроблена толькі ў 1964 г. У выніку такіх змен на землях г.зв. Беластоцкай вобласці, якая ўвайшла ў састаў ПНР, пасля II сусветнай вайны ў спадчынных справах у далейшым абавязвала „літоўскае права" ў рэдакцыі ўстаноўленай X томам Зводу законаў Расійскага царства. Трэба адзначыць, што і сёння ў спадчынных справах і да спадчын адкрытых да 1947 г. прымяняюцца вырашэнні літоўскага права ў рэдакцыі X тома Звода законаў Расійскага царства. Такім чынам літоўскае права далей жыве і прымяняецца на заходніх рубяжах Вялікага княства Літоўскага.

**Пятро Юшчук**

# Незабытае

Раней з перадачы „Пад знакам Пагоні", а цяпер з „Нівы" даведваюся аб клопатах сем'яў памардаваных у 1946 годзе вазакоў з пабудовай помніка на брацкай магіле. Астанкі ахвяр, загінуўшых ад куль атрада „Бурага", былі перапахаваны на вайсковым могільніку ў Бельску-Падляшскім і там меў быць устаноўлены помнік, аднак гэтаму супрацьўляецца беластоцкі ваявода Крыстына Лукашук.

У перадачы нехта з родзічаў памардаваных расказваў, што быў на судзе „Бурага" і ягонага намесніка. На гэтым судзе давялося быць і мне. Суд адбываўся ў кіне „Тон" у Беластоку. Я тады быў вучнем падставовай школы і рашыў прыслухоўвацца працэсу з надзеяй, што мажа нечага даведаюся пра майго роднага брата, які загінуў у красавіку 1947 г. з рук салдат „Бурага" каля вёсак Старое і Новае Лунева Высока-Мазавецкага павета. Разам з ім страцілі жыццё Рыгор Ярмоцік з Каменя Чыжоўскай гміны і Станіслаў Багдановіч з Аўгустова Сувальскага ваяводства.

Пазней ездзіў я ў адно і другое Лунева, дзе загінуў мой брат, але мне сказалі, што магілу брата ніколі не знайду. Узяў я ў гміне метрыку смерці брата і з гэтым вярнуўся. Па сённяшні дзень не ведаю, дзе пакояцца ягоныя астанкі.

Сем'і памардаваных вазакоў таксама дзесяцігоддзямі не ведалі месца пахавання сваіх родных. Цяпер, калі астанкі ў канцы былі перапахаваны згодна праваслаўнаму абраду, усё ж чыняцца перашкоды ва ўшанаванні памяці нявінных ахвяр. Ці ж так павінны паводзіць сябе чыноўнікі дзяржаўнай адміністрацыі?

**Мікалай Лук'янюк**

# Вуліца Добрай Надзеі

**4. Пан Казік**

Ніхто на нашай вуліцы нават не прыкмеціў, калі закончылася вайна. А можа ніколі яе тут і не было? Можа, не знайшоўшы вялікай падтрымкі, накіравалася недзе ў другі бок, туды, дзе больш ахвотна хапаюць за вінтоўкі і штыкі, дзе спакон вякоў вядзецца горды, жаўнерска-паўстанчы род? Можа і так. Хто там цяпер ведае?

— Гэта польска-польская завіруха і нашэ дзело тут ні пры чым, — сказаў аднойчы бацька.

— І маеш рацыю, — падтакнуў пан Грынько. — Маё сто.

Яны гулялі якраз у тысячу, таргавалі адзін аднаго, выкідалі на стол тузы і каралі, і гэты занятак — здаецца — цікавіў іх больш за ўсе грамадзянскія ці сусветныя войны.

Раней, пакуль яшчэ пан Ярузэльскі абвясціў апошнюю у сваёй кар'еры баталію, сустрэчы пры картах адбываліся ў крыху шырэйшай кампаніі. Апрача пана Грынько, заходзіў у наш дом пан Казік. Размяшчаліся найчасцей на кухні — бацька садзіўся пад сцяну, пан Грынько ад дзвярэй, а пан Казік займаў месца пад акном. Гульня — здаралася — зацягвалася і да поўначы, але бывалі і такія дні, калі займацца картамі не вельмі ім хацелася. Згуляўшы тады адну ці дзве партыйкі, хтосьці — найчасцей пан Грынько — падымаўся ад стала і маршыраваў да цёткі Варвары, якая сярод шматлікіх сваіх абавязкаў знаходзіла час на патаемны гандаль спіртнымі прадуктамі. Цэны ў яе былі — вядома — крышку вышэйшыя за тыя ў дзяржаўных крамах, аднак у супрацьлегласці да афіцыйнага гандлю ніколі не здараліся там ні аб'ектыўныя цяжкасці, ні непрадбачаныя перабоі ў дастаўках, ні карткі з надпісам „Перападдзік”.

Пан Грынько выпаўняў сваю місію заўжды паспяхова, а калі вяртаўся, на стале чакала ўжо гарачая яечня, ружовае сала і шклянкі моцнай, пякучай гарбаты. Між гэтае дабро, рашучым жэстам пераможцы, пан Грынько ставіў стройную, успатнелую ад расы бутэльку, а на ўсякія словы — належнай, зрэшты — пашаны, даваў адзін, нязменны адказ: „Я каб не дастаў? Добры жарт”.

Гарэлка разлівалася ў слухмяна падстаўленыя кілішкі, нарастаў гоман, мацнеў смех, ружавелі мужчынскія шчокі. Часам здаралася пану Грынько злётаць да цёткі Варвары і другі раз, а вяртаючыся, з парога ўжо, кідаў на кухню добра ўсім вядомае „Самагона, самагона, чом тэбэ тэпэр нэ гонят...” Як наяўны доказ, што і песня можа памыляцца, за гэтым разам даставаў з-за пазухі закаркаваную газетай паўтарачку, ставіў яе на стол і, вясёла падміргнуўшы, выцягваўся бы струна, прыкладаў далонь да футравага брыля, рапартаваў: „Рэкамендую панству найнавейшы твор цёткі Варвары”.

Выказаўшы стандартную фразу, працягваў вакальную аповесць пра самагонку, ад якое быццам бы адракліся сучасныя майстры кулінарнага мастацтва, а два апошнія спраўна ўключаліся ў мелодыю, падтрымоўвалі яе, узбагачалі, імправізавалі, даючы такім чынам новае гучанне старому шлягеру.

Я любіў слухаць гэты спеў. Асабліва здзіўляла мяне, а можа крыху і смяшыла наша мова ў выкананні пана Казіка. Ён аднак стараўся не выломлівацца з кампаніі і калі нават перакручваў ці забыў нейкае слова, малайцавата крочыў за больш спрактыкаванымі запявайламі.

Адбубніўшы некалькі ваенных або саўгасна-народных твораў, мужчыны мянялі рэпертуар. Пачыналі співаць пра дзевачку, што ішла да лясэчка, пра Каралінку, і пра гураля, і цяпер ужо пан Казік высоўваўся на чало вакальнай калоны, але і бацька, і пан Грынько таксама ж адважна трымалі абраны маршрут, зрэдку толькі блытаючы складаную партытуру. А потым доўга развіталіся ў фортачцы.

Ярузэльская вайна апаражніла месца пад акном. І непрыкметна ды невядома чаму зрабілася пану Казіку не па дарозе ў наш дом.

Напачатку, да канца снежня амаль, заглядаў яшчэ, аднак у карты ўжо не гулялі. Праседжвалі наогул моўчкі, а калі што-небудзь гаварылі, тады найчасцей пра мароз — люты, трыццаціградусны, які ў снежні не так ужо часта і здараецца.

— Зіма ваша, вёсна наша, — сказаў аднойчы пан Казік, спаглядаючы ў замець за акном.

Ці сапраўды чакалася яму тая абяцаная пара, калі зыдзе снег, пераменіць усё, ці так толькі паўтарылася дзесьці пачутае? Хто можа ведаць? Бацька паглядзеў на пана Казіка вельмі здзіўленым зрокам, задумаўся.

— Нашы, Казік, адно такарныя станкі. Гэтыя — ведаеш — у фабрыцы. І зімой, і вясною. Круглы год.

Ад гэтага здарэння прайшло гадоў шэсць. І бацька, і пан Казік далей працуюць на старым месцы, вітаюцца раніцай, развітаюцца пасля поўдня, часам нават — у большай кампаніі — заходзяць на супольнае піва. Да „Валодзі”, або пад „Трынаццатку”.

А я ўсё-такі не ведаю, калі кончылася гэтая дзіўная вайна. А можа яна ўсё яшчэ працягваецца? Мо прагульваецца ночку вуліцай Добрай Надзеі, скрываецца ў глыбіні панадворкаў, з лістападаўскіх моракаў падкрадаецца пад цёпла-жоўтыя вокны?

Можа кончыцца яна толькі тады, калі зноў заглянуць у наш дом і пан Грынько, і пан Казік, і ў тры галасы заспяваюць свае, ці не забытыя песні?

**Міхась Андрасюк**

# Садзіць у Бельску агароднік ружы

*Садзіць і верыць: на зямлі скалістай загарацца ружы сонцам прамяністым.* Гэта словы руплівага, працавітага і моцнага чалавека, які ведае сваю цану і не мусіць нікому і нічога даказваць, настаўніка і паэта родам з Мокрага, Юрыя Баены; словы з першага зборніка *Лісты блакітных успамінаў*, які дапамог аўтару выдаць у 1991 годзе пакойны Алесь Лашук з Лондана. Сем гадоў — добры шмат часу (а калі глядзець ад дэбюту (красавік 1973 г.) — гэта аж чвэрць стагоддзя! Некаторыя трымаюць за пазухай неўміручы тлеючы і напэўна чамусьці пякучы ім закід, што першы той зборнік аўтар зрабіў занадта па-свойму, не пагадзіўся хай на і апякунчыя крылы усямоцнага рэдактара-бога. Можа, замнога ў рэдактара было нейкае драпежнае ахвоты ўмяшацца ў творчы працэс?.. Не будзем пра гэта больш разважаць, бо гэта не наш і чытачоў клопат — той, хто бярэ ў рукі літаратурны тэкст, тым больш беларускі („няма непатрэбных беларускіх кніжак”), ведае, чаго яму трэба, чаго ягоная душа шукае. А аўтар, якому часам і ў галаве ды душы няма думкі ні прагі ці прымусу самому прадстаўляць сваю творчасць, мае патрэбу ў рэдактары, якому даверае. А такім чалавекам, паэтам і рэдактарам, і ёсць Георгій Валкавыцкі, выхаваўца наступнага пакалення захопленых беларускім словам. Дарэчы, і Юрка Баена *нікому не замінае быць чалавекам у Бельску....*

І зборнік паэзіі Юрыя Баены *Вечар над светам** выйшаў у Бібліятэчцы Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа” (кніга 23) пад рэдактарскім вокам Георгія Валкавыцкага, „жалезнага рэдактара”, які зусім не жалезны, а чулы, пільны, сам перш за ўсё паэт у думках і паводзінах, у шмат чым па складзе духа і характару падобны на аўтара гэтай кнігі, хоць на пакаленне старэйшы (мушу тут заўважыць, што ўзрост некаторым паэтам адымае кавал нудна-чуллівага сентыменталізму і слязлівага тону, і робіць іх мудрымі светабачанікамі радаснага, часам смешна-пацешнага ў жыцці)...

Час спрыяе спеласці. Добрае зерне, упаўшае ва ўрадлівую зямлю, пад дбайным зрокам гаспадара і пагодным вокам сонца змарнавацца не павінна. Юрый Баена, які слова заўсёды шанаваў, але без дэкларатыўнай істэрыкі, як некаторыя вершатворцы, наш прачулы свет апісвае простым словам, яснай думкай. Той сум аб краі, *які палыны займаюць, вечаровы сум над светам* канца часу хоць прыгнятае яго, але і дадае моцы — бо *змалку на дне душы* нясе *айчынны скарб — матчын дар*, і не ўводзіць у чаргу *да тых, хто ціха пакідае край*. Ён *крок за крокам (...) увайшоў з двукрылым ценем і з правам, каб да крыніц вяртацца, і абавязкам, каб дасканаліцца ў тварэнні*. Хоць ідзе, разам з *маладымі беларусамі* ўперад, не вырываецца яго карэнне адтуль, дзе *маці, дом, браты і сёстры дрэвы і восеньскія лісты, рака, вёска, сланечнік, словы на помніках, чаканне характа... Сны і мары — знакі свабоды... Вецер стукоча аканіцамі душ. Зелле сціяною закрывае вочы.* Паэт адчувае адказнасць за ўсё гэта, а таксама за гісторыю *някідкіх* „людзей з тэатральным «л»”, рэчаў і з'яў, каб выказаць іх істоту, часам невыказную, а якую ён сузірае ў нейкую хвіліну якраз на тое яму даную, каб даў ім слова. *Малыя дні... будучыня наша... вечнасць...* А ён сам сам сабе і іншым наказвае:

*будзь сабою*
*Назломны*
*аж да болю...*

*Калі памяць твая*
*жыве,*
*Калі кліч Айчыны*
*нясеш!*

Шмат пытанняў і адказаў у вершах Юрыя Баены (ягоная кніга са мною трэці тыдзень, і ўсё новыя там знаходжу). *Ёсць многа слоў на Зямлі, а беларусы толькі пытаюцца — навошта?. Паэт — як вартавы на раздарожжы — такі сумны і адзінокі.* І той хто чытае верш ягоны — беларус, брат таполі і вады, хістка ступаючы па канаце, *чужы сярод непрыязных чужых*, якому трэба *адбудаваць наш дом: камень паставіць на камені...*

*Вачам — адкрыць усе вокны,*
*Словам — аднавіць крыніцы.*

*Не выстаіць дом без даху,*
*Без святасці і памяці,*
*Без вогнішча,*
*Надзеі-ветразя...*

**Міра Лукша**

*Юрый Баена, *Вечар над светам*, Бібліятэчка Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа”, Беласток 1998, сс. 48.

# Сустрэчы „белавежцаў”

У нядзелю 13 снежня г.г. у памяшканні Беластоцкага універсітэта па вуліцы Лінярскага сустрэліся члены Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа”, каб ацаніць зробленае і ўрачыста развітаць адыходзячы год. Карыстаючыся нагодай, старшыня Літаб'яднання Ян Чыквін даў пералік зробленага. А таго і нямала. У гэтым годзе „Белавежа” святкавала свой саракавы юбілей. Адзначылі яго двухдзённай міжнароднай канферэнцыяй, на якой польскія і замежныя літаратуразнаўцы далі змястоўную ацэнку творчага плёну „белавежцаў”. Як на літаратурную групу і яшчэ нацыянальнай меншасці — гэта эпоха, гэта два пакаленні. Столькі ж, колькі праіснаваў у Польшчы так плённы Рамантызм.

Кожны аўтар жыве ў сваіх кніжках. Таму асноўным крытэрыем ацэнкі літаратурнай групы з'яўляецца яе выдавецкая дзейнасць. Не так і лёгка было б зрабіць пералік загалоўкаў зборнікаў, калі паасобныя аўтары маюць іх дзесяткі. Для прыкладу, у самой толькі серыі „Бібліятэчка Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа»”, заснаванай у 1990 годзе, выйшлі друкам 23 літаратурныя кнігі.

Наступны колас у жніўны вянок „Белавежы” — гэта першы нумар літаратурнага штогодніка „Тэрмапілы”. Загалоўка паясняць няма патрэбы. Сам ён з'яўляецца ўжо прыгожай метафарай, якой не трэба тлумачыць адукаванаму еўрапейцу. Многіх гэта ўцешыла і многіх забалела. Факт паяўлення „Тэрмапілаў” сведчыць аб поўнай спеласці і літаратурным узросце „Белавежы”. Быў час літаратурнай старонкі ў „Ніве”, якая споўніла істотную ролю — дала пачатак аб'яднанню, вырасціла яго, давяла да спеласці і закаласіла „Тэрмапіламі”. Штогоднік успрымаецца добра. Асабліва высока цэніцца ў Беларусі. Добра прыняты таксама польскім творчым асяроддзем і інтэлігенцыяй.

Далей Ян Чыквін у сваім інфармацыйным выступленні пазнаёміў „белавежцаў” з прапановай прэзідэнта „Беларускага кнігазбору” Кастуся Цвіркі. Менавіта, у іх выдавецкім плане прадбачана такое, як „Літаратурная Беласточчына”. І гэта не нейкі там адзеглы ў часе намер. Кніга мае паявіцца напрыканцы 1999 года і прызначана на гэта 700 старонак. Таму і звярнуўся Ян Чыквін, якому К. Цвірка даручыў адказнасць, да „белавежцаў” з просьбай даслаць свае прапановы найпазней да паловы года. Адно толькі — творы мусяць быць раней друкаваныя.

Пасля афіцыйнай часткі сход праходзіў за абедзенным сталом, дзе аўтары чыталі свае творы. Апрача Юркі Баены і Міхася Шаховіча, якіх зборнікі паявіліся ў гэтым годзе ў паэтычнай серыі „Белавежы”, выступілі Віктар Стахвюк і Сакрат Яновіч.

**(мш)**

**Зорка**
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# Свята ў бабулінай хаце



*Калядоўшчыкі.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

У снежні пачынаецца падрыхтоўка да Каляд. Амаль цэлы месяц дзеці, моладзь і дарослыя гавораць пра святочныя пакупкі, ёлку, калядаванне, падарункі. Зразумела, што гэтай дзяжурнай тэмы не прапусцілі і мы.

Нядаўна „Зорка" наведала вучняў VI „а" класа, што ў бельскай „тройцы".

— Найбольш люблю свята ў бабулінай хаце, — кажа Юстына Шымчук.

Юстына мае бабуль у Круглым і Рыгораўцах. Разам са сваёй сястрой і братам ходзіць калядаваць.

— А самы прыемны момант, калі ўся сям'я сядае за святочны стол. Ну і падаркі, зразумела, вельмі люблю, — кажа Юстына.

Святочныя падаркі і святы ў вёсцы любіць таксама Гося Паўлючук. Дзяўчына мае бабуль у Снежках і Бэрэзышчах. — Пакуль святкаваць, дапамагаю наводзіць святочныя парадкі, прыбіраю ў хаце, упрыгожваю ёлку, — пералічвае Гося.

— У вёсцы свята цяплейшае і святлейшае як у горадзе, — кажа Юліта Сушч.

Юліта, як і яе сяброўкі, хоча правесці свята ў вёсцы, у Кленіках, мясціне, дзе жывуць яе бабуля і дзед.

— У сяле адчуваецца святочную атмасферу, — кажа шасцікласніца.

Амаль усе вучні VI „а" паедуць на Каляды ў вёскі бабуль і дзядоў. І праўда, добра святкаваць у мясціне, дзе ніхто не працуе, дзе шпацыруюць па вуліцы вясёлыя людзі, ходзяць з каляровымі гвяздамі каляднікі. Усім хочацца спяваць калядкі і ласавацца святочнымі стравамі. Як добра мець бабулю ў вёсцы!

**Зорка**

Вучнёўская творчасць

## Хрыстос нарадзіўся!

Ужо Калядак час настаў.
Бацька з лесу ёлку вязе,
Мама пірагі пячэ.
Пад абрусам сена,
Настаў час Хрыстовага Нараджэння.

Каляднікі спяваюць.
Гаспадыні на стол стаўляюць
Каля рыбы куццю,
Каля баршчу просвіру.

Цераз вокны выглядаюць:
Першай зорачкі чакаюць
Ёсць! Ёсць! — крычаць дзеці —
Можам ужо за стол пасесці!

**Жанэта Роля**

*Гэты верш я напісала, калі была ў V класе.*

## Лянівы коцік

Сівы коцік
Сеў на плоцік
І так паглядае:
— Штосьці мне Ірынка мае?

— Сама з'ем,
Табе не дам!
Ем упечаную кішку,
А ты злаві сабе мышку!

Ты, лянівы, тут сядзіш
І на мышак не глядзіш!
Коцік скочыў, завурчаў,
З рук дзяўчынкі кішку ўкраў!

Кінуўся наўцёкі кот,
Са здабычай сеў пад плот.
Кішку новую Ірынка
Нясе з кухні, з саланінкай.

**Мікалай Ігнацюк**

# Калядныя абрады ў Падрэчанах

Калядныя абрады на Беласточчыне ахопліваюць перыяд ад Свята Куцці па Свята Трох Каралёў. Пачынаюцца яны Калядою або, як кажуць інакш, Куццёю. Жанчыны падрыхтоўваюць посную вячэру з сямі і больш страваў, у тым ліку боршч з грыбамі, рыбу і куццю з макам. Самі цэлы дзень посцяць і не дазваляюць есці іншым членам сям'і. Мужчыны прыносяць са свайго лесу ёлкі, разам з дзецьмі іх строяць рознымі ўпрыгожаннямі ўласнага выкарання, а таксама цукеркамі, яблычкамі і сухімі кветкамі. Затым прыносяць сена, высцілаюць ім стол, лавы і накрываюць белым абрусам або палатном. Стравы расстаўляюць жанчыны. Пасля вячэры моладзь рыхтуе гвязды, спяваючы калядныя песні.

Першы дзень Раждзяства звычайна ёсць адпачынкам пасля ўсяночнай багаслужбы. З абеду пачынаецца калядаванне. А як было раней? У нашай вёсцы, якая налічвала да паловы пяцідзесятых гадоў 30 гаспадароў, арганізавалася не менш як 5 калядных груп, а каб яны адна адной не перашкаджалі, абавязвала чарговасць. Калядаванне пачыналі малодшыя дзеці, пасля ішлі старэйшыя школьнікі. Усе мелі гвязды (без запаленых свечак) і спявалі калядкі пад вокнамі або ў хаце. І зараз гэтая традыцыя падтрымоўваецца, хаця няма ўжо столькі калядоўшчыкаў.

**Аліна Сіроцкая,**
**Пачатковая школа ў Чыжах**

# Уладзіслаў Казлоўскі

Уладзіслаў Казлоўскі быў адным з найбольш выдатных дзеячаў беларускага нацыянальнага руху міжваеннага перыяду. Нарадзіўся ён 29 чэрвеня 1896 г. у Залессі на Сакольшчыне. У 1916-1919 гадах вучыўся ў віленскай Каталіцкай духоўнай семінарыі, аднак ксяндзом не захацеў стаць, больш цягнула яго да грамадскай і палітычнай дзейнасці. У 1919 годзе закончыў настаўніцкія курсы, арганізаваныя Цэнтральнай беларускай радай Віленшчыны і Гарадзеншчыны і зараз пасля пачаў арганізаваць беларускія школы на Сакольшчыне. Неўзабаве аднак вярнуўся ў Вільню, дзе ўзнікалі беларускія палітычныя, грамадскія і гаспадарчыя структуры. У маі 1920 г. Беларуская вайсковая камісія накіравала Казлоўскага ў афіцэрскую школу ў Варшаву. Не было, аднак, ніякіх перспектыў на стварэнне беларускага войска. Казлоўскі праслужыў афіцэрам у польскай арміі амаль 10 гадоў. У 1930 годзе пакінуў гэтую службу і вярнуўся да грамадска-палітычнай дзейнасці ў беларускім руху.

Уладзіслаў Казлоўскі бачыў як вынішчалі беларускае нацыянальнае жыццё бальшавікі і палякі. У Вільні спачатку ўключыўся ў дзейнасць Беларускага нацыянальнага камітэта. Быў нават сакратаром гэтай арганізацыі. У 1933 г. пачаў выдаваць газету „Новы шлях", у якой даказваў, што толькі стварэнне беларускай нацыянальнай дзяржавы вядзе да выратавання беларусаў. Паліцыя, аднак, канфіскавала большасць нумароў гэтай газеты. У 1935 г. Казлоўскі стварыў Беларускую нацыяналсацыялістычную партыю і пачаў шукаць саюзнікаў у Нямеччыне. У 1941 г., калі немцы акупавалі Беларусь, прабаваў ён раскруціць беларускую нацыянальную дзейнасць, але не атрымаў дазволу з боку акупантаў. Стаў тады рэдактарам „Беларускай газеты", у якой прапагандаваў ідэі беларускага нацыянальнага адраджэння. Па гэтай прычыне 13 лістапада 1943 г. быў забіты камуністамі ў рэдакцыі ў Менску.

# Польска-беларуская крыжаванка № 52

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку н-р 48:** Зіма, лес, раса, яд, маца. Сіла, месяц, пасада.

Узнагароды, **набор каляровых аўтаручак**, выйгралі: **Магдалена Крышпінюк, Катажына Манаховіч, Давід Слюўка, Анджэліка Сельвясюк** з Бельска-Падляшскага і **Марцін Лукошык** з Гарадка. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Prawo | Parada | ▼ | Arkusz / Diament | Wóz | ▼ | Monar-cha | Filip | ▼ | Malec / Radar |
| Wiel-bicielka ▶ | ▼ | | ▼ | ▼ | | | ▼ | | ▼ |
| ▶ | | | | | | | | | |
| Beksa ▶ | | | | | | Ład ▶ | | | |
| ▶ | | | | Ruina ▶ | | | | | |
| Kasza | | Zawła-szczenie ▶ | | | | | | | |

# „Роднае слова” ў Нарве


Разам з дэкламатарамі конкурс перажывалі іхнія сябры і бацькі.

Дэкламатарскі конкурс беларускай паэзіі і прозы карыстаецца сярод школьнікаў вялікай папулярнасцю. Школьныя, пазней раённыя і ўрэшце цэнтральныя элімінацыі выдатна ажыўляюць жыццё многіх школ. Аднак самым важным, бо з ім


Анэта Яканюк — лаўрэатка Гран-пры.

жа вяжуцца самыя гарачыя перажыванні, з'яўляецца школьны этап.

— Мэтай конкурсу з'яўляецца папулярызацыя беларускай паэзіі і прозы, — кажа **Ніна Абрамюк**, арганізатарка школьнага дэкламатарскага конкурсу ў Нарве. Мерапрыемства наладзілі тут 8 снежня г.г., а ўдзельнічала ў ім 26 асоб.

***Пачалі наймалодшыя***

У конкурсе ўдзельнічалі таксама дашкольнікі. Шэсць дзетак з нулявога аддзела, старанна і беспамылкова выступілі на школьнай сцэне. Менавіта ў Нарве ўжо з прадшколля пачынаецца знаёмства з беларускай мовай.

— Я, проста, хачу зацікавіць дзяцей. Запрашаю іх да ўдзельніцтва ў дэкламатарскім конкурсе, на беларускія мерапрыемствы, — кажа Ніна Абрамюк.

Настаўніца працуе з дашкольнікамі і першакласнікамі як валанцёрка. Дзякуючы такой практыцы павялічваецца лік навучэнцаў беларускай мовы, якая пачынаецца тут з другога класа.

— У гэтым годзе маем 16 другакласнікаў, — адказвае настаўніца, не скрываючы задавалення.

Вернемся аднак да прадшколля. Да конкурсу ў вялікай ступені дзетак рыхтавалі бацькі. Некаторыя з іх прысутнічалі ў час мерапрыемства. Яны суцяшалі напружаных ад хвалявання дзяцей, жыва і энтузіястычна ўспрымалі кожнае выступленне. Святочны настрой папаўнялі элегантныя ўборы выступаючых і прыгожая зала-святліца поўная сакавітай зелені і дзіцячых малюнкаў.


Камісія конкурсу: (злева) Анна Лапіцкая, Валянціна Назарук, Ала Сяткоўская і Ніна Абрамюк.



***Узнагароджаныя***

Камісія ў саставе: Ала Сяткоўская, Валянціна Назарук, Анна Лапіцкая, Ніна Абрамюк і ніжэйпадпісаная мелі нялёгкую задачу. Усе дзеці добра падрыхтаваліся да выступлення. Варта адзначыць, што дашкольнікі і першакласнікі сваю ўвагу перш за ўсё засяроджвалі на беспамылковым чытанні ўголас твора. Але і тут былі займальныя дэкламацыі, якія прадставілі **Адам Васілюк** і **Юстына Асіпюк**. Выдатна выступіў **Паўлік Шышкевіч** і **Іаанна Ніканові**ч з трэцяга класа. Сярод старэйшых вучняў вылучаліся: **Віялета Ляшчынская**, **Анджэліка Ляшчынская**. Найбольшае захапленне публікі і камісіі выклікалі выступленні **Ані Іванюк** і **Анэты Яканюк**. Камісія аднагалосна прызнала Ані і Анэце Гран-пры.

Аня Іванюк, вучаніца IV класа, падрыхтавала апавяданне Міколы Гайдука пад загалоўкам „Працуй, бо есці не дастанеш”. Анэта Яканюк з VIII класа (найстарэйшая ўдзельніца конкурсу) дэкламавала таксама прозу — апавяданне Ядвігіна Ш. — „Пазыка”. Усім лаўрэатам-пераможцам „Зорка” жадае поспехаў на раённым і цэнтральным конкурсах „Роднае слова”.

***Лаўрэаты школьнага дэкламатарскага конкурсу „Роднае слова” ў Нарве***

**Гран-пры:** Аня Іванюк і Анэта Яканюк.

**I месца:** Адам Васілюк — I клас, Юстына Асіпюк — I клас, Павел Шышкевіч — III клас, Іаанна Ніканові́ч — III клас, Віялета Ляшчынская — IV клас, Анджэліка Ляшчынская — V клас.

**II месца:** Мар'юш Шышкевіч — „0” клас, Іаанна Купай — „0” — клас, Сільвія Андраюк-Савіцкая — „0” клас, Кася Гэва — „0” клас, Барбара Грынявіцкая — II клас, Міхаліна Гэва — V клас, Агата Капейчык — IV клас.

**III месца:** Эмілія Іванюк — „0” клас, Іаанна Зубрыцкая — I клас, Івона Кандрацюк — I клас, Патрык Яканюк — II клас, Іаанна Стоцкая — IV клас.

**Вылучэнні:** Мацей Катовіч — „0” клас, Мар'янна Садоўская — „0” клас, Іаанна Асташэўская — I клас, Пауліна Іванюк — III клас, Пауліна Васілюк — III клас, Эдыта Хіліманюк — II клас.

**Ганна Кандрацюк**
*Фота аўтара*


Аня Іванюк.

# Агляд непрафесійнага мастацтва



*Малады мастак Павел Верамюк слухае заўваг Віктара Кабаца.*

Фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА

13 снежня г.г. у Гайнаўскім доме культуры адбылося адкрыццё выстаўкі V Агляду непрафесійнага мастацтва Гайнаўскай зямлі. Дырэктар ГДК Мікола Бушко прывітаў удзельнікаў конкурсу, зачытаў прозвішчы ўзнагароджаных і ўручыў узнагароды. Звярнуў асаблівую ўвагу на цікавыя працы з Дома грамадскай апекі. Журы, якога старшынёю быў Віктар Кабац, узнагародзіла Аліцыю Собуль за акварэлі і Станіслава Жывалеўскага за алейныя працы. Вылучэнні атрымалі жывапісцы Павел Верамюк, Уладзімір Васілюк, скульптар Славамір Смык і Юрый з Дома грамадскай апекі (жыхары гэтай установы падпісваліся толькі імёнамі) за працу з тканіны. Пасля афіцыйнай часткі можна было паглядзець працы і паразмаўляць з выканаўцамі і яе арганізатарам Зінаідай Якуць.

— Калі гаварыць пра тэмы прац, дык ужо ад некалькіх гадоў найчасцей на гайнаўскіх аглядах паяўляецца пейзаж, партрэт і нацюрморт. Не хапае матыву Белавежскай пушчы і характэрнага гайнаўскага краявіду, затое з'явілася разьба Славаміра Смыка, выкананая ў дрэве і яе абстрактная форма, — кажа старшыня журы Віктар Кабац. — Дзве ўзнагароджаныя асобы заняліся сакральнымі тэмамі. Станіслаў Жывалеўскі выканаў алейную карціну з выявай распятага Хрыста, выкарыстоўваючы ў якасці фону сучасную абстаноўку, Павел Верамюк адклікаўся да рэлігійных матываў іконы і свечкі. Трэба звярнуць увагу на Паўла Верамюка, як на найлепшага тут партрэтыста. У гэтым годзе паказаў ён двойчы аўтапартрэт, які з'яўляецца доказам таго, што гэты здольны малады мастак мае ўжо свой характар. Няма ў яго непатрэбных дэталяў, а выяўляе тое, што найважнейшае. Цікавыя таксама акварэлі Аліцыі Собуль, робленыя далікатна і адначасна ярка, з цікавымі колерамі і непаўторнай свежасцю, на якіх паказаны пейзаж у час розных пор года. Вылучылі мы таксама рэалістычны алейны партрэт Уладзіміра Васілюка, які паказвае маладую дзяўчыну падчас нейкага балю. Апрача ўзнагароджаных прац трэба яшчэ звярнуць увагу на абстрактную карціну выпускніцы белліцэя Патрыцыі Галан, у якой на першым плане рух фактуры і колеру.

— Паказваю тут дзве працы. Двайны партрэт — гэта працяг таго, што і рабіў раней, а карціна з іконай і свечкай гэта мае пошукі новага. Яшчэ не ведаю, ці ісці далей вучыцца ў іканапісную школу, ці ў нейкую вышэйшую мастацкую ўстанову, гэта мае пошукі таго, што буду рабіць у будучыні, — гаворыць Павел Верамюк з Дубін, вучань Супрасльскага мастацкага ліцэя.

— Свае акварэлі ці пастэлі я не лічыла працамі сур'ёзнымі, якія можна паказваць на выстаўках, а жывапісам пачала я цікавіцца яшчэ ў Падставовай школе ў Новаберазове, калі мой бацька вёў урокі малявання, — гаворыць пераможца Аліцыя Собуль. — Але калі камісія заўважыла мае працы, можа сапраўды трэба памяняць падыход на больш прафесійны.

Вялікі аптымізм, энергія і цікавыя тэмы — гэта прыкметы, якія заўважыла журы ў працах з Дома грамадскай апекі.

**Аляксей Мароз**

# Чаму Міцкевіч стаў слаўным?

Як слаўным — пагля́дзіце самі. З нагоды 200-й гадавіны з дня яго нараджэння ўрачыстыя навуковыя сесіі адбыліся м.інш. у амерыканскім Вашынгтоне, сірыйскім Дамаску ды сібірскім Томску. Яго́ная паэма „Пан Тадэуш" перакладзена на каля 50 моў. Апошнім часам выдалі яе ў Албаніі ды рыхтуюць да друку ў Эстоніі. На беларускай мове апублікавалі яе ажно 3 разы. Браніслаў Тарашкевіч беларускі пераклад зрабіў у польскай турме: памяняў свае хлебныя пайкі на кнігу-арыгінал ды напісаў свой тэкст на папяровых мяшках з-пад цэменту. Апублікавалі яго ў Ольштыне.

Помнікі паэту стаяць у Рыме, Парыжы, Ваймары (Германія), Познані, Кракаве, Варшаве, Львове, Гурзуфе ля Ялты, Брэсце, Вільні ды Навагрудку і Карлсбадзе. Міцкевічы маюць свой герб „Порай", значыцца, Адам — дваранін. Маці яго Варвара Маеўская па мужчынскай лініі была — хаця хрысціянкай — яўрэйскага паходжання. Згадайма, што А. Пушкін быў афрыканскай крыві (яго продак — арап Пятра Вялікага). Гэта часта павялічвае камбінаторыку генаў і родзіць геніяў.

Не без значэння і тое, што паэт прыйшоў на свет напярэдадні Каляд. Акушэрка Маладэцкая, „каб нованароджанае дзіця было разумнае", перарэзала яму пупавіну на кнізе пераплеценай у чорную скуру. Адны кажуць, што гэта быў судовы кодэкс, іншыя — што гэта былі творы Ігнацы Красіцкага (1735-1801) — паэта і пісьменніка. Міцкевіч чорную кнігу заўсёды трымаў на пісьмовым стале.

У дзяцінстве наш вешч выпаў цераз акно. Маці занесла яго — ледзь жывога — да цудатворнае іконы Мадонны і ён аздаравеў. Таксама і святы Серафім Сароўскі ў дзяцінстве ўпаў са званіцы. Ёгі кажуць, што ў некаторых выпадках гэта прабуджае духоўныя сілы, дзейнічае як у царкве хіратонія (пасвячэнне на святара) праз узлажэнне рук епіскапа.

Найлепшай паэмай паэта ёсць „Ода да маладосці", а там чытаем словы:

*Oto miłość ogniem zionie:*
*Wyjdzie z zamętu świat ducha.*

Мудрасць тут вялікая і паралельная да царкоўнаславянскага сказа ў праваслаўнай літургіі. (Святар): „Возлюбим друг друга, да единомыслием исповемы". (Хор): „Отца и Сына и Святаго Духа. Троицу единосущную и нераздельную". Значыцца, раней павінна быць любоў, а толькі згэтуль дух, у сэнсе ўпарадкаванага разумення, фармулявання і вызнавання. Як у Біблії, перш за ўсё, Святы Дух сышоў на апасталаў, а толькі пасля гэтага пайшлі яны прапаведаваць. Крыніцай любві ёсць сам Бог, які кіруе гісторыяй свету і народаў.

Міцкевіча хрысцілі не адразу, а ў лютым. Ягоная метрыка нараджэння была напісана на лацінскай мове. Вось мой пераклад:

„У гасподнім року 1799 месяца лютага, 12 дня, прападобнейшы ксёндз васпан Антон Постлет, курляндскі канонік, ахрысціў дзіцятка імёнамі Адам, Бэрнард, законнанароджанага сына Міколы Міцкевіча, мінскага каморніка, навагрудскага адваката ды Варвары Маеўскай, шлюбных і благародных малжонкаў. Да хрэсьбінаў трымалі шляхетнейшы Бэрнард Абуховіч, земскі мозырскі суддзя ды законнанароджаная Амелія Узлоўская, жонка грані́чнага суддзі Навагрудскага павета".

Міцкевічы — маўляў той — раней мелі прозвішча Міцько і былі беларусамі. Тады правільна мінская прэса назвала Адама (які часова дадаваў сабе імя Напалеон) „сынам беларускай зямлі ды польскага народу".

Хаця ён памёр 26 лістапада 1855 г. у Канстанцінопалі (Турцыя), але яго астанкі ў 1890 годзе перавезлі ў кракаўскі замак на Вавелі. Там ён ляжыць сярод польскіх каралёў разам з паэтам Юльюшам Славацкім. Гітлераўцы іх не кранулі.

Калі буду глядзець фільм Анджэя Вайды „Пан Тадэуш", сэрца маё запытае, чаму і ў Беластоку не стаіць помнік вешчу як сімвал дружбы між народамі?

**Сэрафін Корчак-Міхалеўскі**

# Белавежская пушча зімою

5 і 6 снежня г.г. у Беларускім музеі ў Гайнаўцы праходзіў мастацкі конкурс „Белавежская пушча зімою", у якім прымалі ўдзел вучні Падставовай школы н-р 3.

У суботу моладзь намалявала плакатнымі фарбамі шэсць вялікіх малюнкаў. Усе вучні працавалі салідна і ў выніку атрымаліся вельмі цікавыя работы. Усюды паяўлялася звярына Белавежскай пушчы: зубры, алені, ваўкі і зайцы. Вучні школы н-р 3 якраз і жывуць на ўскраіне Гайнаўкі, каля самога лесу, і з прыродай сутыкаюцца штодзённа. У сваіх працах найахвотней паказвалі яны дапамогу лясным суседзям, падкормку звярыны ў заснежаным лесе. Амаль усе вучні ходзяць на заняткі беларускай мовы, чытаюць у школе „Ніву", а некаторыя пасля заканчэння падставовай школы думаюць ісці вучыцца ў Беларускі ліцэй.

— Матывы да прац бралі мы не толькі з уласных назіранняў, але і з кніжак. Дома думалі мы, што будуць нам прапанаваца святочныя тэмы, звязаныя з Калядамі і таму рыхтаваліся мы дома маляваць Дзеда Мароза, а тут атрымалася зусім інакш, — кажа пераможца Альжбета Плева, вучаніца VII класа, якая ходзіць на заняткі беларускай мовы і думае працягваць навуку ў беларускім ліцэі.

— Ніхто сярод гэтых вучняў не займаецца дадаткова ў ніякіх мастацкіх гуртках, але калі даведаліся аб конкурсе, ахвотна вырашылі прыняць у ім удзел, — кажа Генрыка Няхода, апякунка вучняў.

Камісія пад старшынствам мастака Алега Кабзара найлепшымі працамі прызнала карціны Альжбеты Плевы і Юстыны Палянцэўш. На другім месцы апынуліся Эмілія Семяцкая і Уршуля Хамацюк, а трэцяе месца было прысвоена Барбары Келбашэўскай і Іаанне Гурнай. Дзяўчаты, якія заваявалі першыя месцы атрымалі дыпломы і два вялікія сабакі (глядзіце здымак). Іншыя пераможцы і астатнія ўдзельнікі конкурсу таксама атрымалі дыпломы і ўзнагароды. Як і ў час працы, так і пасля абвяшчэння вынікаў быў пачастунак. Конкурс арганізаваў і наглядаў за яго ходам Зіновій Галёнка, уласнік рэстарана „Белая ружа", які і з'яўляўся спонсарам мерапрыемства.

**Аляксей Мароз**

*Фота аўтара*




*Альжбета Плева і Юстына Палянцэўш — пераможцы конкурсу.*

Нататкі з Каталоніі

# Карыда



Быць у Барселоне і не паглядзець **карыду** — усенародную іспанскую забаву, якую так любіў Пабла Пікаса, — гэта была б справа невыбачальная. Зрэшты, каб пабываць на гэтым відовішчы, марылася мне здаўна. Тады я не ўсведамляла сабе, якое гэта (для нас — не іспанцаў) крывавае відовішча, ды і наогул уяўлялася ўсё крыху інакш.

Звонку уваход, як у звычайны тэатр, закруглены будынак. Усярэдзіне — быццам вялізны, круглы амфітэатр з арэнай пасярэдзіне. Сярод гледачоў найбольш, вядома, мясцовых, але і гасцей нямала.

Гадзіна 18.30, ліпень, гарачыня неймаверная, дзякуй Богу, што мы сядзім высока і над нашымі галовамі распасціраецца нешта накшталт паветкі. Той, хто сядзіць ніжэй, млее ад гарачыні. Каталонцы запасліся мінеральнай вадой. П'юць яе, паліваюцца ёю. Цэлыя скрынкі марожанага, якія прадаюць тут хлопцы, ходзячы між радамі гледачоў, апаражняюцца ўмомант.

Іграе музыка, узбуджаюцца эмоцыі. Іспанцы (каталонцы?) шалеюць, нешта тлумачаць сваім дзецям, тыя цешацца. Госці з-за граніцы глядзяць на гэта дзіўнае відовішча з нейкім здзіўленнем: маўляў, куды я трапіў...

Вось тарэадор, седзячы на кані, пачынае ўбіваць пікі ў цела быка. Убіў іх можа шэсць ці восем. Потым злазіць з каня і з чырвонай плахтай у руках пачынае дражніць быка, убіваючы ў яго вялізнае цела наступныя пікі.

На трыбунах гледачы скандуюць: „Оле! Оле!", спяваюць у прадчуванні перамогі тарэадора над быком, смяюцца з быка.

І раптам амфітэатр аж страсянула ад рогату і дзікіх воклічаў радасці. Гэта бык спатыкнуўся і зламаў рог. Не апладыруе толькі большая частка замежных гасцей. На іх тварах малююцца мешаныя пачуцці.

А бык ужо дабіты, і тройка магутных коней цягне яго на спецыяльнай падкладцы па пяску праз усю арэну, быццам нейкую дакананую пачвару. Забіць быка, сімвал усяго зла, якое ўвасабляе ён — задача тарэадора.

На вялізную арэну выпушчаны ўжо наступны бык. Шэсць матадораў з ружовымі плахтамі стараюцца раззлаваць яго, а пасля хуценька хаваюцца за даволі шчыльна прылягаючымі да металічнай агароджы арэны (таксама металічнымі) шырмамі, куды матадоры ледзь уціскаюцца. І бык прабуе ўсадзіць туды сваю мызу, але куды там! Матадор толькі вытыркае з сярэдзіны сваю ружовую плахту і махае ёю перад носам быка.

Раз'юшаны бык кідаецца тады на тарэадора, які застаўся адзін на полі бою. Тарэадор вабіць быка на чырвань, а сам то ўцякае ад яго, то выгінаецца ўмела, каб у адпаведны момант убіць у яго чарговую піку. Касцюм тарэадора шчыльна прылягае да яго цела, каб не даць быку магчымасці зачапіцца за нешта.

Калі тарэадору ўдаецца чарговы манеўр і ён убівае яшчэ адну піку ў цела быка, то трыумфальна падымае руку ўверх, дэманструе сваю перавагу над быком жэстам перамогі. Публіка аж млее: „Оле! Оле!" — і цяжка апісаць гэты гул. Ён — як шум мора, акіяна. А бык усё больш пануры, і кроў яго ліецца шырокім струменем на пясок арэны. Хутка і яго вывезуць на бойню, з якой маюць дагавор тутэйшыя магнаты.

Мяснік чакае, але бык пакуль што яшчэ жыве, бегае, то ўцякае ад тарэадора, то зноў атакуе яго. А тарэадор кланяецца, быццам акцёр на сцэне, а не забойца.

І раптам... акрываўлены бык, нацэліўшыся на тарэадора, які сядзеў на кані, стрымгалоў папёр на яго, свайго мучыцеля. Не дастаў да ездака, бо той хуценька прыбраў ногі, але так садануў каня ў бок, што той паляцеў на пясок, накрыўшы сваім целам тарэадора.

Аглушальны гром авацый разнёсся па наваколлі. Я разглядзелася навокал: апладыравалі госці! Іспанцы, што сядзелі побач з намі, замоўклі, павесілі насы. Каб замяць справу, аркестр зайграў гучны марш.

Іспанцаў лёгка было пазнаць здалёк не толькі па іх рэакцыі (яны былі прыхільныя тарэадору, а замежныя госці — быку), але і па тым, што мясцовыя мужчыны сядзелі да паловы распранутыя, а на галовах мелі вялізныя капелюшы самбрэра.

Бедныя быкі! Іх лёс і так наканаваны — яны мусяць загінуць. Тарэадоры гінуць рэдка, але здараецца і так. Вось бык, злосны на ўвесь свет, кідаецца на матадора, які дапамагаў тарэадору яго раз'юшыць. Гоніць матадора, які ўцякае ў напрамку агароджы з такой хуткасцю, што той не паспявае нават схавацца ў сваю сталёвую шчыліну, а з разгону пераскоквае агароджу. А магло быць кепска, ой кепска... Злосны тарэадор з чырвонай плахтай рэабілітуецца: вымучыў быка як толькі мог і нарэшце ўбівае нож у карак быка.

Гледачы (мясцовыя) устаюць са сваіх месц, махаюць знятымі белымі кашулямі, хусткамі, майкамі — абы-чым, калі толькі яно белае. Белы колер сімвалізуе перамогу.

Ужо павезлі пяць быкоў на бойню. Тарэадор абыходзіць арэну, а людзі кідаюць яму свае шапкі, капелюшы — тарэадор адкідае іх назад. Сусед-каталонец злавіў сваю шапку і пацалаваў яе.

Раптам чуюцца свісты. Тарэадор на кані выпусціў з рук піку, хацеў убіць яе ў быка, але яна выслізнулася, бо шосты бык быў юрлівы і моцны. Два тарэадоры і шэсць матадораў, памочнікаў, атакуюць яго. Бах! — бык вырваў у памочніка з рук ружовую плахту.

Усе — на аднаго. Толькі што былі свісты, а ўжо б'юць брава, бо тарэадоры ўбілі дзве пікі ў быка.

Неяк супольнымі намаганнямі дарэзалі фінкамі гэту шостую нячыстую сілу. Оле! Оле!

**Ада Чачуга**
*Фота аўтара*

# Як я апярэдзіў канкардат

У мясніцы адсвяткуем з жонкаю восем гадоў супольнага жыцця. Юбілей не вялікі і не круглы, але я не пра юбілеі. І не з думкай пра віншавальныя тэлеграмы. Пішу, бо толькі цяпер стала мне ясна, што я ў той лагодны студзень 1991 года ўзяў шлюб паводле прынцыпаў, якія дазволіў канкардат толькі напрыканцы 1998 года.

Канкардат, гэта дамова якой-небудзь дзяржавы з Ватыканам, якая рэгуліруе жыццё Каталіцкай царквы ў той жа дзяржаве. Народная Польшча пасля вайны парвала канкардат падпісаны II Рэччу Паспалітай. Пра яго аднаўленне сталі гаварыць пасля 1989 года і не сціхаюць да гэтай пары.

Урад Ганны Сухоцкай у 1994 годзе падпісаў новы канкардат, але ратыфікаваў яго толькі цяперашні Сейм. Найбольш спрэчак выклікалі гэтак званыя каляканкардатныя законы, якія датычаць канкрэтных галін жыцця, між іншым, царкоўных шлюбаў і пахаванняў на канфесійных могілках.

Каляканкардатныя законы набылі юрыдычную моц напрыканцы лістапада. Газеты, радыё, тэлебачанне заявілі пра першыя выпадкі шлюбаў паводле новага парадку. Найбольшае навоўвядзенне заключаецца ў тым, што цяпер можна звянчацца адно ў царкве і не трэба распісвацца ў ЗАГСе. Духоўны нясе туды пасведчанне царкоўнага шлюбу і ЗАГС рэгіструе гэты факт, надаючы яму юрыдычную моц. Раней вянчацца ў Доме Божым можна было толькі пасля грамадзянскага шлюбу.

Дату шлюбу запланавалі мы тры месяцы раней. Часу быццам бы і не мала, але палагодзіўшы справы ў царкве, нейк не хапіла нам настойлівасці зрабіць тое ж у ЗАГСе. Звянчаліся мы 27 студзеня 1991 года ў Прачысценскай царкве ў Бельску. Згулялі вяселле і сталі жыць штодзённымі клопатамі, не мазолячы сабе галаву нейкімі там ЗАГСамі.

Урэшце жонка пайшла ў бельскі магістрат, каб неяк легалізаваць наш звяз. Там ёй далі лекцыю пра ўсе фармальнасці, з якімі трэба спраўляцца і пра час, які трэба будзе адчакаць, калі прыйдзе наша чарга. Жонка расклала рукі. Тады пайшоў у ЗАГС я. Растлумачу я ім ясна і коратка, што мы ўжо дашлюбных курсаў не патрабуем, звянчаліся ў царкве, няхай нас проста запішуць і ўсё!

Але справы не такія простыя былі. Як высветлілася, каб запісацца трэба было нам разоў прынамсі некалькі наведваць тую ўстанову ў Бельску. Я на той час канчаў вучобу ў Варшаве і зрабіць гэта проста было немагчыма фізічна. У ЗАГСе, аднак, нікому не патуралі. Раз так, тады я запатрабаваў, каб увесь акт чыталі па-беларуску. Рассмяяліся мне ў нос: а хто будзе перакладаць? Я сам. Ну не, музыку якуюсьці можаце сабе пусціць замест марша Мендэльсона, але сама працэдура будзе на дзяржаўнай мове. Плюнуў я і больш туды не пайшоў.

Надалей фармальна жылі мы як чужыя сабе людзі. Мне гэта не мяшала, але ж у жонкі ва ўсіх паперах стаяла, што яна панна. І прозвішча было старое, хоць мы згодна лічылі, што яна прыняла маё. Калі жонка трапіла ў шпіталь, стала ясна, што так далей жыць не можам, нейкі парадак з паперамі зрабіць трэба. Але ж і вяртацца ў бельскі ЗАГС і нанава пачынаць з імі валакіту не хацелася.

Выхад знайшоўся нечакана. Запісаліся мы ў Чыжах, дзе ні я, ні мая жонка ніколі не жылі і не былі прапісаны. Акт шлюбу падпісала нам, — на нашу просьбу нават не чытаючы, — знаёмая маёй сястры. У час гэтай „урачыстасці" выступалі мы з жонкай у фланелевых кашулях і ў джынсах. Ніякай фармалістыкі, напышлівасці. Раскаваная атмасфера, добры настрой, хутка і спраўна. І задаволены швагер, якому за кавалеркі не давялося быць старшым сватам, а тут, ужо жанаты, пасведчыў важнасць нашага шлюбу сваім подпісам.

Восем гадоў таму зрабілі мы тое, што адно цяпер дазволіў канкардат — звянчаліся ў царкве без „цывільнага" шлюбу. Неўзабаве будзе гадавіна. А даты, якая стаіць у нас у паперах, я, хоць забі, не памятаю.

**Мікола Ваўранюк**

# Зборнік рэлігійных гутарак

Нядаўна выйшаў з друку другі зборнік рэлігійных гутарак а. Канстанціна Бандарука „Адзінае на патрэбу" (першы — азагалоўлены „Праўда вас вызваліць" — з'явіўся год таму). У кніжцы сабраны некалькі дзесяткаў тэкстаў на самыя розныя тэмы. Прагучэлі яны з царкоўных амбонаў або ў эфіры беларускай службы Радыё Свабода, на якім аўтар працуе з 1991 года.

Кніжка пачынаецца каментарыямі да дзесяці Запаветаў Божых, Нагорнай казані і малітвы „Ойча наш". Далей прапануюцца чытачам гутаркі на тэмы нядзельных евангельскіх чытанняў і даецца спроба адказу на некаторыя спрэчныя або супярэчлівыя праблемы, якія ўзнікаюць перад вернікамі. Закранаюць яны, напрыклад, пытанні нянавісці і фальшывай любові, маральнай ацэнкі прыемнасці, рэінкарнацыі, прысягі, сораму, цярплівасці, талерантнасці і фанатызму. Завяршае кніжку гутарка „Любіць сваё, паважаць чужое", у якой, між іншым, разглядаецца пытанне, чаму мы лічым, што з усіх іншых рэлігій праваслаўнае хрысціянства — выключнае.

Кніжку можна купіць (8 зл.) або заказаць па пошце ў нашай рэдакцыі.

**(вл)**

# У вагоне без акон і дзвярэй

**Успаміны Лідзіі Масайла, якая нарадзілася ў 1927 годзе ў Курашаве Чыжоўскай гміны, а сёння жыве ў вёсцы Гарадзіска Нарваўскай гміны.**

Пасля Вялікадня 1943 года хадзілі па вёсцы немцы з *арбайтсамта* ў Новым Беразове з нашым солтысам і назначалі моладзь на работу ў Германію. Мы з сястрою ўцяклі за клуню, але мяне і так назначылі. Хутка забралі ў Гайнаўку, а адтуль поездам у Беласток. Там завялі ўсіх нас у лазню, праверылі ці здаровыя і павезлі ў Прусію. Завезлі мой транспарт у Гайльсберг (сёння Лідзбарк-Вармінскі — А. В.), горад велічыні Гайнаўкі, 80 кіламетраў ад Кёнігсберга. На станцыю прыязджалі нямецкія паны і забіралі нас. Адзін пан быў з дачкою і яна паказала на мяне, бо я была большая, а меншых яны не любілі. У сям'і маіх гаспадароў было многа дзяцей: тры дачкі і трох сыноў. Быў ужо там таксама адзін рабочы, паляк, Уладэк называўся; ён на млыне працаваў. Гаспадары былі някепскія, дагаворвалася я з імі з дапамогаю паляка, працавала зімою на кухні, даіла кароў. Уладэк гаварыў мне:

— Mów im, że nie umiesz.

І гаспадыня вучыла мяне даіць тых кароў. Надойвала я два вядры ад пяці кароў. Летам вадзіла кароў на пашу, з калёніі ў вёску малако вазіла, а адтуль самаход забіраў. У полі палола буракі, гной раскідала, а як збожжа касілі снапавязалкамі, то снапы зносіла. Жыла я на гарышчы, печы там не было, у пярынах ляжала. Вопратку прысылалі мне з дому, гаспадыня не давала, бо былі ў яе вялікія расходы на дзяцей.

Ужо ўлетку 1944 года немцы забіралі прымусовых работнікаў капаць акопы, але мая гаспадыня тады мяне не пусціла. Працавала я ў яе яшчэ нейкія два-тры месяцы і тады ўжо забралі і мяне. Капалі недзе пад Кёнігсбергам. Было многа палякаў, баларусаў, украінцаў, крыху рускіх. Спачатку хлопцы ўцякалі адтуль; бывала, што да сваіх гаспадароў. Калі пачаліся бамбёжкі, немцы выгналі нас з акопаў і разагналі да гаспадароў. Я ўзяла свае клункі на плечы і пашла; немцы адступалі, але нас не чапалі. Гаспадар крычаў на мяне, чаго вярнулася, але прыняў назад. Праз чатыры дні падышоў фронт. За хлявом нашага гаспадара, на *кукушцы*, немец па саветах страляў, яго яны ранілі. Ён упаў, гаспадыня крычыць мне:

— Lidia, geh! Russisch Soldat...

Але дзеці пабачылі, што гэта немец, і закрычалі сваёй *Mutti*, што ён не *russisch*, толькі *deutsch*. Гаспадар узяў саначкі, палажылі раненага салдата, гаспадыня заплакала.

Прыйшлі чатыры рускія, п'янаватыя, немцы ў падвал пахаваліся. Распытваюць мяне, а я ім адказваю. Адзін з аўтаматам заглянуў у падвал, выйшаў:

— *Все гражданские.*

— *Выходить!* — крыкнуў другі.

І пачалі біць немцаў, і мне адзін раз па твары дасталася ад п'янага рускага. Немца сталі біць прыкладамі і я кінулася ўцякаць. Яны мяне дагналі:

— *Ты русская, чего удираешь?*

— Бо білі.

Яны сталі аднекваліся, што білі мяне, а пасля зноў накінуліся на немцаў. Адзін салдат сказаў мне:

— *Так им хорошо, бо они так у нас делали. А ты, если русская, так удирай, бо убьём.*

Я і пабегла ў вёску, там былі ўкраінцы і беларусы, а саветы ўжо загадвалі:

— *Запрягайте лошадей и уезжайте!*

Я яшчэ вярнулася ў свой маёнтак па свае рэчы, а там гаспадары і іх двое дзяцей ляжалі мёртвымі, ранены салдат яшчэ адзываўся... Многа рэчаў я не мела, баялася браць. А другія набралі валізак з розным дабром. Крыху пад'ехалі, спынілі нас саветы, выпраглі коней, усё дабро павыкідалі і пазабіралі. Далей ішлі мы пяшком; цэлы тлум. Але саветы пазней дазволілі адысці толькі палякам, а нас, беларусаў, забралі ў шпіталь у Інстэрбургу — па дваццаць у кожны шпіталь, там многа шпіталяў было. Я трапіла на кухню, папала туды і яшчэ адна дзяўчына з Курашава. Варылі для паўтары тысячы хворых, а вясною садзілі яшчэ бульбу.

Кончылася вайна і прыйшоў нам загад ехаць пад Японію. Мы плакалі, але нам сказалі: працавала немцу дык і нам трэба. Месяц пасля заканчэння вайны павезлі нас з усім шпітальным абсталяваннем, везлі таксама месяц. Мы там пастаялі нейкі час без хворых і прыйшоў загад перапраўляцца ў Японію. Пагрузілі нас і завезлі на Японскае мора. Падставілі параход, але замалы быў для нашага шпіталя. Адасланы яго назад каб прыслалі большы. Але большага мы не дачакаліся, бо Японія здалася. Сталі мы за портам, у палатках. Былі са мною дзяўчаты з Бельска, Новай Волі, Ліпін і пачалі мы прасіць начальніка, каб дазволіў нам вярнуцца ў Польшчу, а ён не згаджаўся. Але другі начальнік з усімі гаварыў. Мы яму растлумачылі нашу сітуацыю, — я яшчэ мела пісьмо з польскаю пячаткаю, — і ён кажа:

— Калі так, тады *уезжайте*. Пішыце *рапарт* і мы вас адашлем.

Мы напісалі і яны адаслалі нас. Далі нам медалі, спраўкі, але я ўсё сваё пагубіла і цяпер не маю ніякіх дакументаў, што на вайне была. А і раней нам, што былі ў Германіі, пазабіралі ўсе рэчы, а калі мы паскардзіліся, нам сказалі:

— *Это ж трофеи!*

Далі нам білеты і харчовыя талоны на дарогу. На станцыі Бабстава чакалі два дні, бо *занято*, але наш начальнік пастараўся і нам дачапілі быдлячы вагон; спалі на нарах. На станцыях поезд затрымоўваўся даўжэй, так што быў час паесці. У мяне быў плед, каб накрывацца, а мая сяброўка нічога не мела, дык мы адным прыкрываліся. Да Масквы даехалі без перасадак. У Маскве зайшлі да фатографа, зрабілі здымкі на памятку і праз дзве гадзіны мелі іх адабраць. Вярнуліся мы па тыя здымкі, а дзверы закрыты.

Пайшлі мы на Беларускі вакзал. У поездзе ў Мінск дасталася нам месца ў вагоне без акон і дзвярэй. А была восень, ногі падзеравянелі так, што на станцыях не было як устаць! У Мінску пераселі мы на поезд у Брэст, у Брэсце перайшлі граніцу і поездам прыехалі спярша ў Бельск, а адтуль у Гайнаўку. Падаліся мы на рынак, а там мой дзед прадаваў капусту, ён мяне і завёз дадому. У хаце былі ўсе, ніхто ў вайну не загінуў.

Запісаў Аляксандр Вярбіцкі

# „Наша ніва" і ўсходняя Беласточчына

**Частка 30**

Першая масавая беларуская газета „Наша ніва" моцна цікавілася жыццём беларусаў ва ўсходняй Беласточчыне. З апублікаваных карэспандэнцый вынікае, што ў большасці выпадкаў аўтарамі такога тыпу публікацый былі жыхары беларускіх вёсак.

Зразумела, што сённяшнім жыхарам усходняй Беласточчыны павінна быць цікава пазнаёміцца з характарам жыцця нашых продкаў і з пунктам гледжання тых, несумненна таленавітых беларусаў, якія каля 90 гадоў таму характарызавалі свой побыт на старонках „Нашай нівы". Народ, які не цікавіцца сваім мінулым, не заслугоўвае на добрую суверэнную будучыню.

У 15 нумары „Нашай нівы" за 1910 год, у рубрыцы з „Беларусі і Літвы" знаходзім інфармацыю з мясцовасці Студзянкі Сакольскага павета. Аўтар падпісаны ініцыяламі І. М., між іншым, піша:

„Дрэнна жывецца нашым хлебаробам, а найгорш тым, каторыя паразрывалі і без таго скупыя свае надзелы на маленькія шматочкі: цяпер выходзіць, што „сам не гам і каму не дам", бо на такіх шнурочках каня не прахарчуеш, дык і няма за што рук зачапіць, вось гаспадар адракаецца і гэтага шматка зямліцы, ды й ляжыць яна, зарастаючы кустамі, адлогам. Кідаюцца тады такія сяляне на заработкі, балазе, што ёсць у нас яшчэ густыя лясы, толькі не кожны ўмее ўшанаваць сваю працу: найбольш услед свае грошы (тут аўтар мае на ўвазе п'янства — А. Б.). Так, напрыклад пры расплатах адны бралі па 30 рублёў, а іншыя па 30 капеек".

Нацыянальнай беларускай спецыфікай займаецца ў той жа рубрыцы аўтар, які падпісаўся псеўданімам Янук Царкоўнік. Напісаў ён аб сітуацыі ў вёсцы Вірышы Сакольскага павета.

„Тутэйшыя сяляне, — сцвердзіў публіцыст, — дзеляць сябе на праваслаўных і каталікаў: ад такога падзелу дабра не спадзявацца, вось і жывуць між сабою як кот з сабакай. Каб больш яны мелі клёку ў галовах сваіх і не залівалі мазгоў сівухай, то ведалі б, што ўсе яны браты родныя, сыны адной маткі-Беларусі. У мест сварак супольна працавалі б не для праваслаўных ці каталікаў, а для ўсяго грамадзянства".

Значную цікавасць прадстаўляе сабой публікацыя П. Алексюка, азагалоўленая „Аколіца Айсмонты". Аўтар у ёй атакуе тую мясцовую шляхту, якая пакідае беларускую мову, пераходзячы на польскую.

„Шляхта тутэйшай аколіцы, — сцвярджае П. Аляксюк, — відаць забылася ўжо сваёй прадзедаўскай мовы, а мо і не ведае гэты цёмны народ, што даўней іх бацькі і дзяды, а нават і ўсе паны ўжывалі толькі родную беларускую мову; цяперашні народ столькі круціць і калечыць так свой язык, што і не апазнаць іхняй гутаркі, „словам, і не дахаў, і не дайшоў" як у нас з іх смяюцца. Не забыліся затое тутэйшыя людзі іншых старасвецкіх звычаяў у аколіцы. Хоць яна і невялікая, ёсць аж тры карчмы і як надыйдзе свята шляхта і тады цягне туды як жураўлі ўвосень і там за кварту гарэлкі можна купіць чалавека, як кажуць з патрахамі, ці зрабіць якое шэльмоўства. Ці сведчыць аб гэтым чаго ніколі не бачыў, ці так што якое — усё за гарэлку. Не дзіва, што ўся аколіца калоціцца ад судоў..."

Здаецца, што ўсе прыведзеныя цытаты ствараюць цікавую хацяі невясёлую карціну жыцця з нашага мінулага.

Алесь Барскі

# Здаровы хвораму не спагадае

Хаця ў народзе гаворыцца інакш: сыты галоднаму не спагадае, але думаю, што сэнс гэтай разумнай пагаворкі адносіцца аднолькава да нашых пачуццяў і душы; да сытага і галоднага, да здаровага і хворага, да добрага і дрэннага. Не пералічыць нашых пачуццяў і ў нашай душы многа больш дрэннага чым добрага. І нездарма калісьці свяцейшы Аўгусцін сказаў, што чалавек па прыродзе дрэнны і толькі тады можа стаць лепшым, калі сам Хрыстос стане яго праваднікам.

З вялікай увагай прачытаў я допіс Пятра Байко „Ад хваробы няма радасці" („Ніва" н-р 48). Усё, што ён напісаў — чыстая праўда і навука нам усім. У першую чаргу: не цешыцца чужой бядою, бо і свая не за гарою; не капаць ямкі на кагосьці, бо сам прападзеш ад злосці.

Калі малады чалавек выстараўся сабе пенсію па інваліднасці, а ведаем, як сёння малады цвет сохне і маладыя людзі заўчасна адыходзяць у вечнасць, аднак большасць бліжніх не верыць у яго хваробу і шэпчуць, што „залатвіў" у лекараў. Магчыма, што здараюцца і такія выпадкі, але я асабіста нікому не шкадую і не зайздрошчу яго пенсіі; няхай бярэ на здароўе. І селянін, як вечны раб, няхай атрымоўвае тых некалькі грошай; бо ён варты гэтага. Цяжка мы жылі пасля вайны, а яшчэ горш перад вайною. Працавалі як валы і нічога не мелі. Не было ў што апранўцца, абуцца і ўпрогаладзь жылі — адна свінка на цэлы Божы год і то для вялікай сям'і.

Сялян Гайнаўшчыны і Бельшчыны ратавалі саламяныя вырабы, якія высока цаніліся пры камуне, і нашы сялянскія вырабы, якія высока цаніліся дзяржавай. Цяпер усё пайшло навыварат... І дай Бог здароўе Герку, што ён паклапаціўся пра заслужаныя пенсіі нам, сялянам: і старэйшым людзям, і малодшым, калі ім хібее здароўе. Многія не вераць хвораму чалавеку і кажуць, што ён прыкідваецца, а калі ўжо нават бачна, што ён сапраўды хворы, тады некаторыя нават цешацца чужою немаччу.

Я, як правіла, нікому не гавару пра свае недамаганні, бо і так ведаю, што мала хто паверыць у гэта, бо лічаць мяне чамусьці такім здаровым, што ніякая хвароба да мяне не прычэпіцца. Мо таму, што бачаць, як я з поўнаю сумкаю газет еду на мотаровары ў найбольшыя маразы. Але хто ж за мяне паедзе? Служба — не дружба! А ёсць людзі, якія калі пачуюць пра хваробу бліжняга, дык каб тая хвароба не прычапілася да іх, будуць гаварыць, што яны дзесяць разоў хварэйшыя ад кагосьці. Што ж: што край, то абычай.

Мікалай Панфілюк

# Быць сабою

Звалачыўся я ў вялікі горад. Слова *звалачыўся*, якое я вось паставіў на самым ганаровым месцы майго тэксту, зусім не абазначае, як гэта можа хто падумаць, што я пацягнуўся туды вось так абы-як сабе. Гэтае слова змяшчае вось у сабе і від транспарту, якім я перамяшчаўся. *Vlak*, ці няхай, як хто сабе захоча іначай, *влак* на мовах, якімі карысталіся першыя адукаваныя славяне, абазначае папросту тое, што мы, *тутэйшыя*, называем поездам. Значыць, пракатаўся я *на* поездзе. І зноў хто можа падумаць, што я залез наверх, напрыклад лакаматыва, і так сабе *валокся*. Залянівы я на такое; зайшоў я папросту ў вагон і сеў. На што я сеў — не напішу, бо зарака найбольш дапытлівыя чытачы здагадаюцца, у вагон якога класа я залез. А навошта ім, значыць вам, такія веды? *Скоро старость придёт, если будешь всё знать* — так гавораць вядомыя нам людзі, якія больш вучоныя ў чужой чым у нейкай другой мове. А мы не старэйма!

Сеў я на вольнае месца, узяў у рукі адзін грамадска-культурны часопіс і чытаю сабе; так як і вы, шаноўныя чытачы. І прачытаў я найгалоўнага тэксту недзе столькі ж што і вы майго, шаноўныя чытачы, і перад маімі вачамі паявілася фраза „Усё тло ў ёй беларускае...” Я, як і вядомыя нам людзі, значыць — усе мы, крыху вучоны ў чужых мовах, і адразу скумекаў лагічнае значэнне згаданай фразы. Але пакарціла мяне ліха даведацца, што можа гэта абазначаць на нейкай другой, чым чужая, мове. *Тло*, гэта тое, што сатлела, спарахнела, згніло. Значыць, на нейкай другой, чым чужая, мове згаданая фраза асэнсуецца як „Усё ў ёй, што сатлела, спарахнела, згніло — беларускае...” І хаця ў першапачатковым выглядзе працытаваная фраза нежыццядзейная без кантэксту, у перакладзеным мною на *мову* варыянце яна набывае своеасаблівы сэнс-нонсенс.

Пакарціла мяне і яшчэ адно: які аўтарытэт аўтарам гэтай фразе? Гляну ў я ўніз, спадзеючыся ўбачыць традыцыйнае тамака прозвішча. А яго, традыцыйнага там, няма, толькі *новае* і такое, так бы назваць, роднenькае! Фрэнсіс Бэкан калісьці напісаў: „Саламон сказаў: *Няма нічога новага на зямлі*. А Платон прыдумаў: *Усялякія веды, гэта не што іншае, як успаміны*; так што Саламону належыць мудрая думка пра тое, што ўсё новае — гэта забытае старое.” У разважаннях Бэкана праўды, як на нашы патрэбы, крыху замнога, але ад прыбытку галава не баліць. А аўтарытэт той — вялікі; вельмі вялікі! З менталітэтам-ментарытэтам...

Паставіў я тады сабе пытанне: ці не мэтанапраўлена аўтар адказаўся ад адпаведнага на гэтым месцы слова *фон*? Як паведамляе этымалагічны даведнік, апошняе папала ў *мову* з лацінскага слова *fundus* (дно, зямля, аснова), перакачоўваючы цераз нямецкае *Fond* (задні план) і губляючы канцовы гук „д”. Самое ж *фон* у нямечыне паяўляецца ў прозвішчах, напр. Герхард Іахан Давід фон Шарнхорст, Герман фон Боен, Кольмар фон дэр Гольц ці Эрых Дагоберт фон Дрыгальскі і адыгрывае там тую ж ролю, што ў нас суфіксы *-скі* і *-цкі*. Але навоштака ж нам, вясковым славянам, карыстацца рымскім ці германскім лексічнымі *фондамі*? Жа ж жа мы не *гэнсі* і свой *ензык* маем!

**Адам Маньяк**

# Прабудзіцеся, дарагія

Цешуся, што мой сябра і ніўскі вучыцель Міхась Хмялеўскі зноў піша свае цудоўныя артыкулы на старонкі „Нівы”. Хто Яго не знае? Шматгадовы журналіст нашай газеты і адзін з яе заснавальнікаў. Пісаў плённа і прыгожа, правіў нашы карэспандэнцыі, а ў іх ліку і мае „грызмолы”. Чалавек добрага сэрца і душы. І сапраўдны Беларус! Можам ім ганарыцца і вучыцца ад Яго. Даўно ўжо Ён на заслужанай пенсіі, так як і пачэсныя Георгій Валкавыцкі з жонкаю Вераю Валкавыцкаю-Леўчук. Нудна без Вас, дарагія, на старонках „Нівы” і таму пішуце хаця час ад часу свае павучальныя і залатыя думкі так, як зрабіў гэта дарагі мне Міхась Хмялеўскі. Ваша натуга не будзе забыта, бо і я ад Вас навучыўся пісаць у „Ніву” і ўрасла яна навекі ў маё сэрца. Былі і падзенні ў маім жыцці, але хто ж без граху? І я са сваіх памылак навучыўся, як трэба жыць і з усімі дружыць. Я Вас, дарагія, кожны дзень цёпла ўспамінаю, бо Вы мне бальзамам і лякарствам маёму сэрцу.

Пакуль жывяце, дык пішыце, бо напрыклад гуманіст і вялікі чалавек Мікола Гайдук гэтага ўжо не зробіць, бо Ён адышоў у вечнасць і, — веру, — знаходзіцца ў ног Хрыста.

**Мікалай Панфілюк**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Ой, Астронку, пэўна, здарыцца ў мяне нешта кепскае. Зразумей, прыснілася мне мая свякруха. Праўда, не сённяшняя, а маці першага мужа. Бо ў мяне цяпер другі муж, і менавіта яго маці мае прыехаць да нас на свята.

У сне мая былая свякруха прадстала перада мною, як жывая, з усімі яе ста дваццаццю пяццю кілаграмамі. Такая ж, як і была раней, таўшчэзная, непаваротлівая. Ідзе яна па пероне на вакзале і кіруецца прама ў наш вагон, у якім мы сядзім разам з дзецьмі.

Я падумала, што гэты сон мне прыснiўся нездарма. Якраз жа спадзяемся мы другой (цяперашняй) свякрухі ў госці, але справа ніяк не можа вырашыцца, ці прыедзе яна да нас на свята, ці застанецца святкаваць з сям'ёй малодшага сына.

Я б вельмі хацела, каб яна да нас прыехала, бо мы якраз купілі новую кватэру, у якую нядаўна перабраліся. Хацелася б, каб яна глянула, як мы тут уладкаваліся. Свякруха павінна нам канкрэтна адказаць, ці прыедзе, бо гэта пытанне нас вельмі хвалюе. Інакш жа трэба рыхтавацца, калі будзем толькі мы з дзецьмі, а зусім інакш, калі прыедуць госці, а асабліва такія, як патрабавальная свякруха.

Можа мой сон нешта прадказвае?

**Кацярына**

Кацярына! Здаецца, не ўсё выйдзе так гладка, як хацелася б табе. З усёй справы праглядвае нейкі смутак. Усё дзеецца на вакзале. Ну, можна было б сказаць, што прыснілася табе даўняя свякруха, бо думаеш пра актуальную. І яна некуды едзе, як і гэта свякруха мае прыехаць да вас. Але што вы рабілі ў гэтым вагоне? Куды вы ехалі?

Хачу цябе паінфармаваць, што ехаць у вагоне — значыць, будзе смутак, жаль, а мо нават прыкрая навіна. Калі б ты бачыла цягнік, гэта магло б абазначаць нават небяспеку.

Таму дазволю сабе меркаваць, што твая свякруха не прыедзе да вас на свята. Не хачу сягаць далей, бо са свякрухамі бывае рознае. Можа прыехаць і нарабіць на месцы столькі клопатаў, што і сама не будзеш рада гэтаму прыезду. Але давай не будзем перажываць наперад: думаю, што аж да такіх інцыдэнтаў у вас не дойдзе.

А свякруха, калі цяпер не наведае вас то, магчыма, зможа прыехаць вясною, калі будзе цёпла і прыгожа, — на Вялікдзень. Жадаю поспехаў! Тады і настрой будзе лепшы.

**Астрон**

# Наша пошта

***Вельмі паважаныя Спадарыні і Спадары!***

Шчыра дзякую Вам усім, „усёй світцы з рукавамі”, за Вашу працу, якую Вы ўкладаеце ў кожны нумар „Нівы”, каб ён „нарадзіўся”.

Мне вельмі проста і лёгка адкрыць рулон і чытаць цікавыя рэчы, якія мне апавядае тыднёвік, а Вам трэба ўлажыць шмат працы, каб яго скласці ў розных умовах. Таму я Вашу працу дорага цаню. Мне „Ніва” прыносіць кожны тыдзень многа featureзнага цікавага чытання. Даведваюся, вучуся на старыя гады таго, чаго не ведала раней. „Ніва” памагае мне любіць гарачэй родную старонку. Памажы Вам Божа! Дай спор у працы!

Шкадую, што „Белавежа” старэецца. Сумую, што спадар Мікола Гайдук не жыве. Я вельмі любіла ягоныя артыкулы.

Радуюся, што паэт Віктар Швед мае такую слаўную дачушку Натальку. Ці прабуе Наталька пісаць вершы? Можа мае талент як Тата і будзе другой Арсенневай з часам!

*Бывайце здаровы, жывіце багата,*
*А мы ўжо паедзем да дому, да хаты.*

Вясёлых Вам Калядаў і шчаслівага Новага 1999 года!

З вялікай пашанай

**Галена Скурат**
**Пітэрбараў, Канада**

**Ад рэдакцыі:** Шчыра дзякуем за ацэнку і пажаданні. Прыміце сардэчныя калядныя і навагоднія віншаванні ад рэдакцыйнага калектыву.

# Праблема з тэлефонам

На чыгуначнай станцыі ў Чаромсе ёсць тэлефонная будка, з якой можна пазваніць карыстаючыся магнетычнай картай. Другая будка была на пошце, дзе спалучалі тэлефаністкі.

У канцы лістапада гэту апошнюю ліквідавалі, пакольki пачала працаваць аўтаматычная тэлефонная станцыя (АТС). Засталася адна, на чыгуначнай станцыі.

І вось праблема! Амаль кожны дзень увечары (ад 16 да 20) выстройваецца чарга ля тэлефоннай будкі. Неаднойчы прыходзіцца да паўгадзіны чакаць, бо нельга спыніць размову маладога кавалера, які дамаўляецца з нарачонай на спатканне. Гэтым тэлефонам карыстаюцца таксама многія шафёры замежных аўтафураў, якія звоняць дамоў.

На маю думку, адной тэлефоннай будкі на такі цэнтр як Чаромха замала. Таму прапаную Гайнаўскай раённай тэлекамунікацыі: пастаўце ў рухлівым месцы (напрыклад, побач пошты або чыгуначнай станцыі) яшчэ з дзве тэлефонныя будкі. Грамадства Чаромхаўскай гміны будзе вам за гэта ўдзячнае.

**(ус)**



# Ганарлівы гаспадар

Калісьці Цыбукоў Яська быў прыкладным гаспадаром, усе яго шанавалі, лічыліся з ягоным словам. Падчас ліквідацыі цераспалосіцы ўзяў ён на кватэру геадэзістаў і так пакіраваў справай, што найлепшая зямля яму дасталася. У выніку разбагацеў ён яшчэ больш і стаў ганарлівым чалавекам.

Была ў яго адзіная дачка, Крыся, вядомая ў наваколлі сваёй прыгажосцю. Хацелі з ёю жаніцца многія кавалеры, але ніводзін не адпавядаў фанабэрыстым бацькам: то брыдкі, то бедны, то не той веры.

Час мінаў і кавалеры перасталі заязджаць у Цыбуковы двор. Крыся далей ходзіць у дзеўках, даглядае старэнькіх бацькоў, якім усё яшчэ марацца свае ўнукі.

Ганарлівасць, аказваецца, не прыносіць шчасця.

**Мікалай Лук'янюк**


**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня:** Яўген Мірановіч.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 149.
**Тэл./факс:** (0 85) 743 50 22.
**E-mail:** niwa@kurier-poranny.com
**Internet:** *(wydanie elektroniczne w przygotowaniu)*

*Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.*
**Галоўны рэдактар:** Віталь Луба.
**Сакратар рэдакцыі:** Аляксандр Максімюк.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Ада Чачуга.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.

**Камп'ютэрны набор:** Яўгенія Палоцкая, Марыя Федарук.
**Друкарня:** „Orthdruk”, ul. Składowa 9, Białystok.
Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format). Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

***Prenumerata:***

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1999 r. upływa 5 grudnia 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Ніўка

**Фрашкі пра нашых**

## Лес як лёс

Цешся, народзе!
Экалогія ў модзе.
Там, дзе раслі дрэвы
І дзе звыклых птушак спевы,
Дзе наш Лес як лес стаяў,
Пад сякерай, як лёс, упаў, —
Будзе заўтра цуда-сад,
Парк адметны — дрэвы ў рад,
Ля куста куст, грыб ля грыба
І дарожкі заміж трыбаў...
А тутэйшыя ўсе ў шчасці,
Калывацца будуць насцеж...

**Вандал Арлянскі**



*Мал. Алега КАРПОВІЧА*

## Кароткі курс параноі

**Наступ бясчасся**

Было на блізкім Усходзе. У III ст. нарадзіўся аўтар *Кнігі гігантаў*, напаўлегендарны Мані. Заснаваў ён вучэнне аб першапачатковасці і неадольнасці зла. Зло незалежнае ад дабра. І роўнае яму, як па ўзросце, так і па сіле. Гісторыя — барацьба святла і цемры, дабра і зла, бога і чорта. Чалавек дваісты: створаны пеклам, але ў сааўтарстве з небам. Адсюль — усё зло ад чалавека. Чалавек — зло.

Ці таму Сакрат Яновіч не любіць людзей? Вучэнне жывучае. Пашырылася і апанавала зямны глобус. Мы ў аблозе маніхеяў.

Цяпер вам, курсанты, не дзіўна, чаму шчалкапёры так ярасна бэсцяць уладароў. Уладары таксама людзі. Яны — зло.

Дык калі прачытаеце, што ў Беларусі ўсё зло ад Лукашэнкі, ведайце — напісаў гэта запраграмаваны пад „Свабоду" махровы маніхей, хай ён і адхрышчваецца абедзвюма рукамі. Калі святар корань зла шукае ў іншаверцу, ведайце — прапаведуе блаславёны маніхей. Калі ўбачыце ў тэлевізары палітыка, які, з іскрамі ў вачах, звальвае свае грахі на плечы другога палітыка, ведайце — гэта ідэйны маніхей. Калі сустрэнеце злога на ўвесь свет еўрачмута, ведайце — гэта татальны маніхей. Калі ж пачуеце, што быццам я стаў асатанелым ворагам Барскага, ведайце — вестку пусціў жалю варты маніхей.

Факс з-за Сцяны: Камсамольскія паэты абярнуліся ў маніхейства:

*Ненавіджу гэты час,*
*Што размежыў наша ў нас.*
*Ненавіджу.*
*Вось ідзе рукасты раб.*
*Вось гурма гарластых баб.*
*Ненавіджу.*
*Род іх цёмны і вырод,*
*Што мянуецца: народ —*
*Ненавіджу.*

*(„Полымя")*

Рух пашыраецца.

Заўважана: людзі найбольш ненавідзяць сваіх суседзяў.

Будзьма чуйнымі!

**Сідар Макацёр**

**У кіпцюрах цацерука**

## Клін-I

Рысё жыў з Гражынкаю як муж з жонкаю. Яны і сапраўды былі сужонствам, што можна прачытаць у афіцыйных дакументах, а калі хто не паспеў засвоіць алфавіт — бо, скажам, пачалася якраз вайна, або не стала ўжо апосталаў дармовай адукацыі, — той можа паглядзець згаданы факт на каляровых здымках, дзе Гражынка ў белым вэлюме прытуляецца да Рыся. Я шчыра перакананы: калі б не тыя дакументы і здымкі, Рысё не карыстаўся б Гражынкай, як муж карыстаецца жонкаю. Значыць — жылі яны згодна з законамі, як, зрэшты, уся сям'я: не для мінутнай прыемнасці, а для вышэйшай мэты. А вось сястрына дачка, якая замест пайсці замуж, шукала прыемнасць у кантактах з жанатымі хлопцамі, замест раскошы, знайшла пуза. Наіўны сцэнарыст прапанаваў завяршыць справу абортам, аднак дзяўчына, узяўшы пад разваэгу сваё прыстойнае паходжанне, рашуча сказала „не!" Калі намёкі паўтарыліся раз і другі, накіравала справу ў суд. Сцэнарысту прыгаварылі дваццаць пяць, а пакуль знайшоўся намеснік, дзяўчына нарадзіла здаровага хлопчыка. Ад радасці, што ўсё-такі незаконная раскоша знайшла выхад у слушным напрамку, дзед памаладзеў на гадоў дваццаць, а бабусі быццам бы і сорак зім адняло. На пачатку атрымалася з таго ўсяго невялікая непрыемнасць, бабуся пачала адсоўвацца ад дзеда, называючы яго „старым прыкам", потым аднак, як добрая хрысціянка, памірылася з прыгаворам лёсу і ад гэтага памірэння нарадзіла таксама ж сыночка. Нованароджаны — можна сказаць — стаў дзядзькам для прычыны, якая і паклікала яго на свет. А ў Рыся — без перамен, хаця запраўляў ён насеннем не прасціradла, і не рызінавую люльку, а тое, што трэба. А калі нейкая кропля ненаўмысна трапіла на падлогу, яны з Гражынкай загарталі яе ў насавую хустачку і неслі на могілкі, дзе спраўлялі прыстойныя хаўтуры. Дарма ўсё. Дайшоўшы да вываду, што тавар на заказ не атрымаецца, пачалі разглядацца па прытулках за чымнебудзь гатовым. На добры пачатак усынавілі хлопчыка, а потым зрабілі яшчэ адзін добры ўчынак і прынялі ў сям'ю дзяўчынку. Ад усіх гэтых добрых учынкаў Гражынка зацяжарыла і трэ было разглядацца за новай кватэрай, бо як усе добрыя людзі, Рысё з Гражынкай жылі ў кашмарнай спадчыне па бязбожных часах. А гэта абазначае кухню ў спальні, спальню ў купальні, а купальню на балконе. І вось дзеля павелічэння жыццёвай прасторы, Рысё, першы раз у сваёй біяграфіі, зрабіў злачынства: уручыў ладную суму незнаёмаму асобеню, сустрэтаму на паўстанку трамвайнай лініі н-р 48. Асобень шчыра абяцаў зглянуцца за чым-небудзь адпаведным, ды абяцанку адразу ж прывёў у чын. Калі пад'ехаў трамвай н-р 48, падхапіў таксі і паімбаваў на Акэнце. Рысё вярнуўся дамоў з моцным намерам пазваніць у паліцыю. Ён слушна здагадваўся, што стаў ахвярай паспалітага ашуканства, калі аднак працягнуў руку, каб набраць 997, быццам з-пад зямлі выскачыў анёл-ахоўнік.

— Не звані ў паліцыю, не губляй бліжняга свайго, — азваўся. — Пазвані ў аўдыётэле, а страта твая звернецца ўдвая.

— Туды ж званяць толькі ідыёты, — спрабаваў бараніцца Рысё.

— Значыць, ты якраз і добры кандыдат. Ну, не марудзь, падымай трубку.

Рысё прытрымаў трубку, анёл белым крылом набраў нумар і так аб'яднанымі сіламі яны вызванілі вельмі прыгожы і вельмі дарагі „Ройс". Ад свайго ўдзелу анёл адказаўся. Крылы — вельмі эканамічная справа. Запраўляць не трэба — сказаў і шмыгнуў у адкрытае акно.

Рысё — пакуль яшчэ — прымушаны быў спусціцца па лесвіцы. А праз мінут трыццаць сядзеў за рулём новенькай машыны. Дамоў даехаў шчаслівa. Праўда, на Маршалкоўскай вуліцы — ад радасці ўсё — не паспеў затармазіць і буфер „Ройса" спаткаўся з мазгавешкай галоўнага сцэнарыста фільма „Клін-I". Галава сцэнарыста аказалася на вышыні буфера толькі таму, што яе ўласнік шукаў якраз новыя тэмы для „Клін-II". А браў заўжды проста з вуліцы, з жыцця. Ад сустрэчы з буферам, „Клін-II" акажацца куды больш захапляючым за „Клін-I".

**Міхась Андрасюк**

## Крыжаванка



**Гарызантальна:** 4. муж Ксантыпы, 7. Карусь, беларускі асветнік (1868—1918), 8. прозвішча аўтара „Самасея", 9. рака на ўсходзе правінцыі Гуандун, 10. прыбор, устройства, 14. кіраўнік універсітэта, 18. каша з аўсяных круп, 19. спецыяліст па анатоміі, 20. горы на Хонсю, 21. Джон, англійскі драматург (1929—94).

**Вертыкальна:** 1. горад на поўначы Албаніі, 2. слабое свята, 3. першая польская сталіца, 4. вертыкальная частка будынка, 5. грашовая адзінка ў напр. скандынаўскіх краінах, 6. непрыемнае пачуццё, 11. пасе статак, 12. сталіца М'янма, 13. сённяшняя назва мясцовасці, якая была сталіцаю аднаго з важнейшых ваяводстваў у ВКЛ, 15. устойлівая сацыяльная групоўка людзей, 16. марка чэшскага грузавіка, 17. любоўныя адносіны паміж жанчынай і мужчынам.

**(Ш)**

Рашэнне крыжаванкі складуць літары з пазначаных курсівам палёў. Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 46 нумара**

**Гарызантальна:** шапка, прыярытэт, пілот, карта, аят, Валошын, атэстат, Ікі, Аснар, Гаваі, каралевіч, куцця.

**Вертыкальна:** епархія, шрыфт, Артэк, палкоўнік, Тарасевіч, пчала, Амаці, Ані, таі, капліца, Рурык, гевея.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Міхалу Байко** і **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Перад могілкамі:
— Куды так спяшаешся?
— Нясу кветкі на магілу жонкі.
— Спачуваю табе...
— Э-э-э... Маю ўжо другую.

* * *

— Чаму ў польскіх анекдотах, калі Валэнса сустракаецца з іншымі прэзідэнтамі, ён заўсёды мае рацыю і яны астаюцца ў дурнях?

— Бо менавіта гэта самае смешнае.

* * *

Два адпачыннікі ляжаць на марскім пляжы:

— Ці шчаслівы ты, — пытае адзін, — што праводзіш водпуск над морам?

— Вядома! Толькі вось не магу сцярпець таго, што прападаюць мне выхадныя суботы і нядзелі.

* * *

На пляжы бацькі сочаць за чатырнаццацігадоваю дачкою.

— Паглядзі, як яна вырасла, — ганарыста заўважае маці, — неўзабаве прыйдзецца выдаваць замуж...

— Мае яшчэ час, — адказвае бацька. — Павінна пачакаць, пакуль не сустрэне сапраўды адказнага мужчыну.

— А я чакала?!

* * *

— Ці ўсе ўжо селі на свае месцы? — пытае пасажыраў шафёр аўтобуса.

— Так!..

— Дык прашу выходзіць, бо машына папсавалася.

* * *

Сужонства едзе на адпачынак.

— Божа! — загаласіла жонка. — Я перад ад'ездам забыла выключыць прас!..

— Не турбуйся, — адказвае муж, — я забыў закруціць кран: вада ўсё пагасіць.

* * *

— Татка! У гэтым годзе я хачу пабываць там, дзе яшчэ не быў.

— Выдатна! Маеш дзесяць злотаў і ідзі к цырульніку.

* * *

— Якая розніца між турыстам і кінарэжысёрам?

— Турыст ляжыць на траўцы і глядае зоркі, а кінарэжысёр ляжыць на зорцы і глядае траўку.